22 верасня 2017 | № 35 (549)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

Ідэялогія ў лампасах

Стар. 4

ISSN 2218-2144

5 ШТО ВЫРАТУЕ БЕЛАРУСКУЮ АДУКАЦЫЮ?

Бясконцыя эксперыменты і рух «наперад у мінулае» прывядуць да краху беларускай сістэмы адукацыі і масавы адток выпускнікоў школ у замежныя ВНУ



6–7 ЧАЛАВЕК, ЯКІ МОГ БЫ АБ'ЯДНАЦЬ НАЦЫЮ

Вырашальным момантам у жыцці Генадзя Карпенкі стала яго абранне дэпутатам Вярхоўнага Савета 12-га склікання



8 АПЛЯВУХА НЯМЕЦКАЙ ДЭМАКРАТЫІ

Пра магчымыя наступствы ўсплёску папулярнасці правапапулісцкай партыі «Альтэрнатыва для Германіі» распавядае нямецкі журналіст Пітэр Бурк



11 СВЯТАР, ЯКІ ПРАЙШОЎ ПРАЗ САЛАЎКІ І СІБІР

Па нацыянальнасці ён быў латыш, але моцна любіў Беларусь і выдатна размаўляў на мове нашага народа. Святар, які прайшоў праз шматлікія лагеры, але застаўся моцны ў веры...

# Дурні і дарогі

## Вучэнні «Захад–2017» прадэманстравалі дзве спрадвечныя расійскія праблемы



Сяргей ПУЛЬША

Інтэрнэт захапіла віруснае відэа, дзе расійскі верталёт з-за тэхнічных непаладак выпускае ракеты ў назіральнікаў за вучэннямі і журналістаў. Гэта, бадай, квінтэсенцыя вучэнняў «Захад–2017».

Было адразу зразумела, што вучэнні будуць адпрацоўваць не толькі тактыку і стратэгію вядзення баявых дзеянняў у рэальным часе, але і метады вядзення «гібрыднай», інфармацыйнай вайны. Прычым, гэтая інфармацыйная вайна пачалася задоўга да афіцыйнага старту «Захаду–2017». Уся тая істэрыя, якая стваралася вакол вучэнняў не без дапамогі СМІ, розных спікераў і экспертаў, якраз і паказвае, што ў інфармацыйнай прасторы ішлі інтэнсіўныя небаявыя, але дзеянні.

Адна з галоўных мэтаў той нябачнай вайны, у якую ўключыліся, бадай, усе, — дззабыентацыя «патэнцыйнага ворага». У віраванні ацэнак, каментараў, асцярогаў, сцэнараў, планаў і гэтак далей, губляліся самі дзеянні вайскоўцаў. Усе абмяркоўвалі не ход вучэнняў, а «што будзе» і «што магло б быць, калі». Украіна палохалася ўдару з Поўначы, краіны Балтыі і Польшча — рэальных баявых дзеянняў у раёне «Сувалкаўскага калідору», беларусы — таго, што расійскія войскі застануцца на іх тэрыторыі. І гэтая істэрыя час ад часу падсілкоўвалася рознага кшталту інфармацыйнымі ўкідамі.

Не выключана, што такая сітуацыя вакол «Захаду–2017» была справакаваная знарок. Гэта, дарэчы, заўважылі некаторыя еўрапейскія аналітыкі. Напрыклад, выданне «Politico» адзначае, што гэтае ўзбуджэнне засланяе праўдзівы сэнс падзеі. Расія ўвесь апошні час палохае Захад прымяненнем войскаў. А істэрыка вакол вучэнняў якраз і ставіць Маскву ў зручнае становішча.

«Гэты страх адпавядае расійскай рыторыцы і пастаянным намёкам на наўпроставыя ваенныя дзеянні супраць яе суседзяў і іншых супернікаў. Расія можа не прадастаўляць інфармацыю пра маштабы вучэнняў — і заходнія СМІ сваімі здагадкамі і страшнымі гісторыямі робяць працу Крамля за яго», — піша «Politico».

Гэта тактыка скандалаў пэўны час спрацоўвала: то рускія не дапусцяць да сваёй зоны вучэнняў назіральнікаў NATO, ад чаго ўзнікалі сумневы ў колькасці задзейнічаных у вучэннях войскаў. То самалёт Іл-76 паспрабуе парушыць паветраную прастору Літвы «з-за дрэнных умоваў надвор'я» (нібыта перад палётам лётчыкам прагноз не выдаецца). То раптам расійскае Мінабароны выкладзе ў агульны доступ загад пра перамяшчэнне танкавых войскаў «у Беларусь»...

Карацей, ствралася такая «гукавая завеса», каб за скандаламі да самых вучэнняў не вельмі і прыглядаліся.

Навошта яна ствралася? Можа быць, для таго, каб у выніку народ не пабачыў, што «кароль жа голы»? Што насамрэч уся баявая моц расійскага войска ўшчэнт разбіваецца альбо тэхнічнымі непаладкамі, альбо «чалавечым фактарам». То бок, дурні і дарогі па-ранейшаму з'яўляюцца асноўнымі праблемамі Расіі.

Столькі інцыдэнтаў з ваеннай тэхнікай, як падчас гэтых вучэнняў, бадай, не было. Ці мы пра іх проста не чулі.

У Калужскай вобласці РФ выкаціўся за межы ўзлётна-пасадачнай паласы бамбавік Ту-22 М3. Мінабароны Расіі кажа: «Нічога страшнага», а па здымках тэлекампаніі «Рен-ТВ» самалёт рамонту ўжо не падлягае. Тэлеканал «Звезда» паведаміў, што ў Барысаглебску ўпаў яшчэ адзін самалёт — вучэбна-баявы Як-130. 7 верасня на палігоне Заходняй ваеннай акругі ў Ленінградскай вобласці пры правядзенні стрэльбаў з танка снарад запуліў не ў мішэнь, а ў хованку, дзе знаходзіліся шэсць ваеннаслужачых групы інжынернага забеспячэння. Адзін вайсковец загінуў, пяцёра атрымалі раненні. У Чыце 6 верасня сышоў з рэек цягнік з ваеннай тэхнікай — перавозіў БМП і ваенныя аўтамабілі. Абышлося без пацярпелых.



> **Беларускаму Міністэрству абароны самы час задумацца: а ці ў той саюз яны ўступілі?**

Вышэйзгаданы інцыдэнт з верталётам Ка-52, які праз тэхнічныя непаладкі стрэліў у журналістаў, — сапраўдная квінтэсенцыя гэтых вучэнняў. Пры гэтым паводзіны расійскага Мінабароны мне вельмі нагадалі такія ж паводзіны, калі ў небе над Украінай іх «Бук» збіў малазійскі «Боінг». Спачатку паспрабавалі заявіць: «Відэа, змешчанае ў інтэрнэце, — правакацыя!». Потым сказалі, што інцыдэнт усё ж быў — але «не там і не тады». Потым кажуць, што самазапушчаная ракета трапіла ў КАМАЗ без людзей. А што высветліцца заўтра?

Каб не было штучна раздзьмутых панічных сцэнараў вакол вучэнняў «Захад–2017», мы б пабачылі, што ўсяго за два тыдні (!!!) расійскія войскі без рэальнага праціўніка панеслі значныя страты калі не ў жывой сіле, дык у тэхніцы. І ў гэтай сітуацыі казаць пра нейкую «баявую моц» нават не выпадае. Навошта яна ўвогуле, калі скіраваная не супраць ворага, а супраць саміх сябе?

Калі ў інтэрнэце ўзнікла Міністэрства замежных спраў Вейшнорыі, — выдуманай краіны-праціўніка на вучэннях «Захад–2017», — адным з першых паведамленняў гэтага ведамства быў заклік варожым дэсантнікам здавацца ў палон. Цяпер гэта выглядае не так смешна — з боку «вейшнорцаў» пакуль не пацярпеў ніводзін чалавек. У адрозненне ад «небаявых» стратаў саюзнага войска Беларусі і Расіі.

Зараз беларускаму Міністэрству абароны самы час задумацца: а ці ў той саюз яны ўступілі? Калі расійскія «дурні і дарогі» прыводзяць да рэальных стратаў падчас вучэнняў, што будзе ў выпадку вайны?

# За што аштрафавалі Павука?

**Беспрацоўнага настаўніка Андрэя Павука з гарадскога пасёлка Акцябрскі суд аштрафаваў за адзіночны пікет з плакатам «Вазьміце Павука на працу!».**

Паводле інфармацыі «Гомельскай Вясны», 19 жніўня суддзя Акцябрскага раёна Уладзімір Васілеўскі прызнаў вядомага блогера, настаўніка біялогіі па адукацыі, Андрэя Павука вінаватым у парушэнні парадку арганізацыі або правядзення масавага мерапрыемства і аштрафаваў на 10 базавых велічыняў, што складае 230 рублёў.

«Я казаў у судзе, што ў мяне склалася цяжкая жыццёвая сітуацыя, што мне неабгрунтавана адмаўляюць у працаўладкаванні ў школах раёна, нават калі прэтэндую на вакансію лабаранта або прыбіральшчыка. Мы гадуем з жонкай дваіх дзяцей, а працуе толькі яна адна. Выплачваем з яе заробку і крэдыт за кватэру. Спасылаўся і на беларускую Канстытуцыю, што яна гарантуе грамадзянам свабоду пераканання ды іх вольнае выяўленне. Аднак суддзя Васілеўскі не ўзяў гэта пад увагу і аштрафаваў, яшчэ больш ускладніўшы і без таго няпростае фінансавае становішча маёй сям'і», — паведаміў «Радыё Свабода» Андрэй Павук.

«Парушэнне заканадаўства аб масавых мерапрыемствах» з боку Павука выявілася ў тым, што 29 жніўня ён выйшаў на плошчу з плакатам «Вазьміце Павука на працу!». Да таго стаяў з плакатам у фае Дома культуры, дзе праходзіла раённая педагагічная нарада. За гэта ўчастковы інспектар Дзмітрый Крумгольц і склаў на Андрэя Павука адміністрацыйны пратакол.

У жніўні Павук спрабаваў уладкавацца ў трох школах раёна на адкрытыя вакансіі педагога-арганізатара, інжынера-праграміста і нават прыбіральшчыка службовых памяшканняў, але яму ўсюды адказвалі, што вакансіі ўжо запоўненыя. Не дапамог і пісьмовы зварот да намесніка старшыні райвыканкаму.

Няўдалай была спроба Андрэя Павука на прапанову раённага аддзелу адукацыі ўладкавацца ў пачатку года ў Любанскую сярэднюю школу настаўнікам біялогіі і хіміі. Нечакана на адрас аддзелу адукацыі Акцябрскага райвыканкаму прыйшоў ліст пратэсту ад бацькоў школьнікаў, якія, па словах Павука, магла ініцыяваць старшыня сельсавету Тамара Кароль. Васьмёра бацькоў школьнікаў у калектыўным лісце выказаліся супраць прызначэння Андрэя Павука настаўнікам з прычыны «яго дзейнасці». Адзін з подпісаў аказаўся падробленым.

Пад «дзейнасцю» Андрэя Павука мелася на ўвазе яго актыўная грамадзянская пазіцыя. Ён стварыў у сацыяльных сетках суполкі «Рудабельская паказуха», стаў здымаць відэасюжэты пра мясцовае жыццё, у якіх часцяком даставалася мясцовым чыноўнікам.

# Дзе ніша для ІП?

Сяргей ПУЛЬША

**У той час, калі беларускія індывідуальныя прадпрымальнікі апынуліся ў незайздроснай сітуацыі з-за розных дэкрэтаў і эканамічнага крызісу, ім прапануюць выйсце. Выйсце — гэта інтэрнэт.**

Апошнія тры гады колькасць індывідуальных прадпрымальнікаў у Беларусі скарачаецца. Іх стала менш на 30 тысяч. Самае імклівае скарачэнне зазнаў рознічны гандаль — абкладзеныя падаткамі, сертыфікатамі, указамі і нормамі ЕАЭС, ІП губляюць пакупніка і вымушаныя закрывацца. Цяпер колькасць ІП складае 245 тысяч асобаў, але пры гэтым працуюць далёка не ўсе.

Між тым, як адзначае кіраўнік упраўлення камерцыі і маркетынгу пляцоўкі «Куфар» Ілля Жукавец, па дадзеных кампаніі Gemius, інтэрнэтам у Беларусі рэгулярна карыстаецца 5 мільёнаў чалавек. Саму ж пляцоўку «Куфар» наведвае 1,2 мільёна чалавек штомесяц. І менавіта такія лічбы падштурхнулі «Куфар» і міжнародны праект «Мазгабойня» запусціць новую гульню, якая мае назву «Куфарызацыя».

«Мы з калегамі шмат абмяркоўваем патэнцыял Беларусі. Яе асноўны патэнцыял — гэта людзі, якія любяць працу, адказныя і гэтак далей — казаў на прэзентацыі «Куфарызацыі» Ілля Жукавец. — У Фінляндыі, напрыклад, 50 працэнтаў ВУП дае прадпрымальніцтва. А дзе наш малы і сярэдні бізнес?»

А наш малы і сярэдні бізнес, які скарачае сваю прысутнасць на рынку, далей нікуды не выходзіць. «Куфарызацыя» мае на мэце даць гэтаму малому бізнесу новы старт — ужо ў інтэрнэце.

Таму «Куфар» прапанаваў камандзе «Мазгабойні» распрацаваць новую квіз-гульню, скіраваную менавіта на ІП.

Квіз — гэта нешта падобнае на аматарскае «Што? Дзе? Калі?», калі незнаёмыя людзі збіраюцца ў каманды і гуляюць у пытанні і адказы недзе ў бары ці кавярні. Арганізацыяй такіх гульняў і займаецца праект «Мазгабойня». Па словах Кацярыны Максімавай, стваральніцы гэтага паб-квіза, зараз у «Мазгабойню» гуляюць у 115 гарадах міра, а кампаніі просяць распрацаваць для іх карпаратыўны квіз. Таму, калі паступіла прапанова зрабіць такую гульню ад «Куфара», ім ідэя спадабалася.

Адрозненне «Куфарызацыі» ад стандартнай «Мазгабойні» ў тым, што гэта не проста гульня — гэта своеасаблівы адукацыйны курс для прадпрымальнікаў. Кожная гульня будзе суправаджацца навучальным працэсам. Напрыклад, пра анлайн-бізнес і стварэнне інтэрнэт-крамаў будуць распавядаць прадстаўнікі «Студыі Баравога» — вэб-праекта па прасоўванні сайтаў у інтэрнэце. Пра тое, як з мінімальнымі стратамі перайсці з афлайн у анлайн продажы (груба кажучы, змяніць кропку на рынку на анлайн-краму) распавядуць выкладчыкі школы Інстытута прадпрымальніцтва і менеджмента. Як правільна гандляваць у інтэрнэце з пункту гледжання падатковай інспекцыі распавядуць прадстаўнікі Міністэрства па падатках і зборах.

То бок, ад пачатку ІП дадуць базавыя веды пра тое, як стварыць свой бізнес у інтэрнэце ці перавесці туды ўжо існуючы. А ўжо потым пачнецца гульня, удзельнікі якой будуць падзеленыя на каманды па 4–6 чалавек.

Усяго ў межах праекту адбудзецца пяць такіх тэматычных гульняў: адна ў Мінску, астатнія ў рэгіёнах. Каманда, якая пераможа ў гульні, атрымае 20 тысяч «куфаў», — унутранай валюту «Куфара», што адпавядае прыкладна 2 тысячам рублёў. І патраціць гэтыя «куфы» можна будзе для стварэння першай анлайн-вітрыны і прасоўвання сваіх тавараў праз інтэрнэт.

Канешне, адразу ўзнікае пытанне: навошта «Куфару» ствараць сабе канкурэнтаў? Але Ілля Жукавец канкурэнцыі не баіцца. Паводле яго, у развітых краінах доля продажаў тавараў праз інтэрнэт складае 10–15 працэнтаў. У нас жа гэты паказчык — 2,8 працэнта. То бок, каб дасягнуць сусветнага ўзроўню, Беларусі патрабуецца ў чатыры-пяць разоў больш інтэрнэт-крамаў, чым ёсць зараз.

А таму гэтая ніша будзе яшчэ доўга адкрытая для развіцця і цікавых праектаў.

# Андрэй Паротнікаў: «Гэта чыстай вады сабатаж»

Сямён ПЕЧАНКО

**Кіраўнік «Belarus Security Blog» Андрэй Паротнікаў распавёў «Салідарнасці» пра галоўнае ўражанне ад вучэнняў «Захад–2017».**

«З'явілася шмат аналітыкаў у ваеннай сферы, якія <...> нават у войску не служылі», — Мінабароны ў асобе кіраўніка ведамства Андрэя Раўкова ў чарговы раз адрэагавала на ажыятаж вакол вучэнняў «Захад–2017». Міністр падкрэсліў, што Беларусь нічога не ўтойвае ад замежных назіральнікаў: «Поўная адкрытасць, і не ў якасці таго, што мы хочам перад кімсьці апраўдацца. Не, калі ласка, глядзіце, мы адкрытыя для ўсіх».

Адзначым, што з гэтым сцвярджэннем незалежныя эксперты не згодныя. Раней кіраўнік «Belarus Security Blog» Андрэй Паротнікаў напісаў на сваёй старонцы ў фэйсбуку аб тым, што, у адрозненне ад журналістаў з Беларусі і Расіі, прадстаўнікам прэсы з іншых краін прыходзіцца цяжэй працаваць на палігонах:

— Беларускіх і расійскіх журналістаў наша Мінабароны катае на палігоны кожны дзень. А замежным кажуць, што то аўтобусаў не хапае, то месца для назірання на палігоне не дазваляе размясціць больш за 40 чалавек. З улікам таго, што журналістам дэманструюць «паказуху», дык што перашкаджае прагнаць усіх жадаючых у дзве хвалі: адны глядзяць шоу, другія вывучаюць умовы побыту на палігоне. Потым мяняюцца месцамі. Замежнікі бачаць стаўленне да сябе — і будзьце ўпэўненыя, гэта не пройдзе бясследна для іміджу краіны.

У каментары «Салідарнасці» Андрэй Паротнікаў падкрэсліў, што такія дзеянні Мінабароны інакш як сабатажам не назавеш.

«Беларускія ўлады прадэманстравалі сваю поўную няздольнасць мадэраваць інфармацыйнае поле нават у спрыяльных для сябе ўмовах. Цяперашняе стаўленне да замежных журналістам дыскрэдытуе не толькі беларускае сілавое ведамства, але Беларусь як краіну. Інфармацыйная параза поўная, іміджавыя страты будуць вельмі адчувальныя», — падкрэсліў эксперт.

Паводле словаў Паротнікава, яму б хацелася, каб тое, што адбываецца, было выклікана некампетэнтнасцю сілавога ведамства, аднак насамрэч гаворка, хутчэй за ўсё, ідзе пра мэтанакіраваныя меры:

— Па нумарах тэлефонаў, указаных у якасці кантактаў для замежных СМІ, проста ніхто не адказвае. Відавочна, што гэта робіцца наўмысна. Чаму так адбываецца? Магчыма, яны проста баяцца размаўляць з замежнымі журналістамі, таму што не ведаюць, што ім адказваць. Гэта таксама магчыма. Але ў прынцыпе — гэта чыстай вады сабатаж.

Кіраўнік «Belarus Security Blog» лічыць, што Расія паспяхова выкарыстоўвае ваенныя вучэнні, каб перашкодзіць збліжэнню свайго саюзніка з Захадам:

— Палітычна Масква паказвае, што яна незадаволеная палітыкай, якая праводзіцца Мінскім. Расія мэтанакіравана дзейнічае, каб максімальна ўскладніць палітычны дыялог Мінска і з Захадам, і з Украінай.

У якасці прыкладаў такіх дзеянняў эксперт прывёў апошнія інфармацыйныя ўкіды:

— Узгадаем пра танкавую брыгаду, якая падымалася па трывозе ў Падмаскоўі. Пры тым, што там папросту няма такой брыгады. Або дэсантаванне бронетэхнікі на тэрыторыі Пскоўскай вобласці, гэта значыць, побач з межамі краін-удзельніц NATO і ЕС. Усё гэта — частка аднаго плана, накіраванага на тое, каб фактычна ізаляваць афіцыйны Мінск на заходнім напрамку. І ў іх гэта вельмі добра атрымліваецца, яны добра адпрацавалі. Нашы ж прадэманстравалі непадрыхтаванасць і непісьменнасць у плане інфармацыйнай працы.

**Паводле gazetaby.com, пераклад НЧ**

# Пераслед

**У Заводскім РАУСе Мінска на журналістаў Любоў Лунёву і Змітра Краўчука склалі пратаколы паводле артыкула 22.9 КаАП Беларусі, паведамляе прэс-служба БАЖ.**

Журналісты здымалі сюжэт пра закрыццё школы ў Заводскім раёне Мінска. У сюжэце было інтэрв'ю з кіраўніцай раённага аддзела адукацыі. Журналісты мяркуюць, што менавіта запіс словаў чыноўніцы і стаў нагодаю для разбіральніцтваў.

«Мы прадставіліся, сказалі, што здымаем для «Белсату». Але жанчыну гэта не бянтэжыла, яна сама хацела выказацца для аўдыторыі. На нас жа цяпер за той сюжэт склалі пратаколы, абвінавачванне стандартнае: незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ», — распавяла Любоў Лунёва.

Цягам бліжэйшых двух тыдняў мусіць адбыцца суд.

Нагадаем, апошнім часам трое журналістаў атрымалі сем адміністрацыйных пратаколаў паводле часткі 2 артыкула 22.9 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэннях: Кастусь Жукоўскі — з Жлобінскага, Добрушскага і Гомельскага райаддзелаў міліцыі, Ларыса Шчыракова — з Савецкага і Чыгуначнага РАУСаў Гомля, Марына Драбышэўская — два з Чыгуначнага.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Выжывайце самі

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Чым багатая краіна без прыродных рэсурсаў? Толькі сваімі працавітымі і разумнымі грамадзянамі. Падаецца, нарэшце гэта пачынаюць разумець і ва ўладных кабінетах.**



Фота www.sobinam.ru

На тыдні ў нас адбылася амаль рэвалюцыйная падзея. Аляксандр Лукашэнка 19 верасня падпісаў указ №337 «Аб рэгуляванні дзейнасці фізічных асоб». Указы ён падпісвае вельмі часта, але гэты — асаблівы. Ён пашырае пералік відаў эканамічнай дзейнасці, якімі грамадзяне маюць права займацца без рэгістрацыі ў якасці індывідуальных прадпрымальнікаў пры ўмове выплаты адзінага падатку.

У гэты пералік увайшлі такія віды дзейнасці, як рэалізацыя самастойна выробленых грамадзянамі кулінарных вырабаў, прадастаўленне месцаў для кароткатэрміновага пражывання фізічных асоб, выкананне па заказах спажыўцоў работ па рамонце мэблі, гадзіннікаў, абутку, шыццю адзення, наладзе музычных інструментаў, распілоўцы дроў, пагрузцы грузаў, збудаванні печаў і камінаў, а таксама выкананне аддзелачных работ і аказанне грамадзянам паслуг па распрацоўцы веб-сайтаў, абслугоўванні камп'ютарнага і перыферыйнага абсталявання.

У пералік таксама ўключаны паслугі па дызайне памяшканняў, інтэр'еру, мэблі, адзення і абутку, графічным дызайне, паслугі цырульні і касметычныя. У пераліку легалізаваныя віды эканамічнай дзейнасці, якія сёння фактычна ажыццяўляюцца фізічнымі асобамі ў хатніх умовах (напрыклад, паслугі цырульніка) альбо могуць ажыццяўляцца ў такіх умовах без пагрозы прычынення шкоды як асобна ўзятым грамадзянам, так і грамадству ў цэлым.

Асноўныя палажэнні дакумента ўступаюць у сілу праз месяц пасля афіцыйнага апублікавання.

Канешне, трэба было зразумець гэта раней. І не душыць прадпрымальнікаў падаткамі, указамі, сертыфікатамі і рознымі міждзяржаўнымі пастановамі ЕАЭС. Тады б, глядзіш, і крызіс мы б перажывалі менш балюча. Аднак зараз дзяржаўныя асобы, падаецца, вымушана пачынаюць разумець вартасць «чалавечага патэнцыялу». А можа, наадварот, яны ўцямілі, што «сацыяльная дзяржава» ўжо не можа пракарміць усіх, каго магла карміць раней. І таму вырашылі, што «ратаванне тапельцаў — справа рук саміх тапельцаў». Хай людзі самі выжываюць, як могуць.

Але што самае цікавае і карыснае ў гэтым указе? Стаўку адзінага падатку для асобаў без рэгістрацыі ІП вызначаюць мясцовыя ўлады. Па Мінску, напрыклад, такі падатак складае ад 21 да 116 рублёў. Заплаціўшы такую суму, грамадзянін ужо не лічыцца «дармаедам».

Можна сказаць, што Аляксандр Рыгоравіч стварыў патэнцыйную шчыліну для абыходу свайго ж Дэкрэту №3 пра дармаедства. Праўда, не бясплатную, але тым не менш...

Жадаем, каб наступны ўказ кіраўніка дзяржавы яшчэ больш пашырыў гэтыя віды дзейнасці. Бо ў Гродне, напрыклад, закрылася першая ў краіне студыя для аматараў БДСМ-гульняў.

Прадпрымальнік Уладзімір, які адчыніў студыю, у інтэрв'ю журналістам з гэтай нагоды не хаваў разгубленасці: «Нібыта вывучылі рынак падобных паслуг за мяжой, прааналізавалі водгукі сямейных параў, большасць з якіх былі станоўчымі, і сужэнцы заставаліся больш чым задаволенымі. Але нашы чаканні не спраўдзіліся, не знайшлося так шмат жадаючых неяк разнастаіць руціну і паспрабаваць нешта новае».

Па яго словах, гродзенцы цікавіліся навінкай, але вельмі асцярожна: ахвочых паспрабаваць сябе ў ролевых гульнях у панаванне і падпарадкаванне апынулася зусім няшмат.

Можна было б сказаць, што беларусы кансерватыўныя, закамплексаваныя, сарамлівыя, сціплыя. Але сапраўдная прычына, напэўна, у іншым: суайчыннікам гэта проста надакучыла. Бо ў ролевы гульні ў панаванне і падпарадкаванне з імі штодзённа гуляе дзяржава. Сапраўды, у якой яшчэ краіне кіраўнік дзяржавы, не пабаюся гэтага слова, прэзідэнт, вызначае, як і каму можна гандляваць уласна спечанымі плюшкамі? Ці гэта не панаванне і падпарадкаванне? Дык хоць уначы ў ложку дайце расслабіцца...

На гэтым жа тыдні мы даведаліся і пра яшчэ адзін спосаб самавыжывання. Як паведаміла начальнік упраўлення дашкольнай адукацыі Міністэрства адукацыі Альбіна Давідовіч, у дзяржаўных дзіцячых садках з'явяцца платныя групы. Магчымасць рэалізацыі праграмы дашкольнай адукацыі на платнай аснове закладзена ў праекце новага Кодэкса аб адукацыі.

«Дзяржаўныя ўстановы дашкольнай адукацыі змогуць адкрываць платныя групы і працаваць у іх цалкам на платнай аснове. Такая патрэба выказвалася бацькамі, адпаведна, да нас паступалі запыты ад дзіцячых садкоў. Мы вывучылі вопыт іншых краін у гэтым пытанні і заклалі такую магчымасць у праект Кодэкса аб адукацыі», — сказала чыноўніца.

І ў гэтым ёсць вялікая сярмяжная праўда. Сапраўды, трэба з маленства прывучаць дзяцей да рэаліяў жыцця ў Сінявокай. Калі ўводзілі платнае навучанне ў ВНУ, казалі пра тое, што яно таксама будзе ледзь не выключэннем. А зараз 60–70% студэнтаў — «платнікі». Тое ж самае адбудзецца і з дзіцячымі садкамі. Засталося толькі ўвесці платныя ўрокі ў сярэдніх школах — і дасягненні «сацыяльнай дзяржавы» можна будзе лічыць выкананымі.

Больш за тое, пэўныя колы насельніцтва ўжо жывуць пры камунізме, і грошы ім не патрэбныя. Інакш не патлумачыш выпадак, які адбыўся ў Маладзечна.

Сям'я збіралася на дачу. У сумку з рэчамі яны паклалі і скрынку ад мабільнага тэлефона, дзе знаходзіліся 14 500 долараў. Селі ў машыну, а сумку, пакінутую побач з машынай, забыліся. Узгадалі пра яе, толькі калі прыехалі.

Канешне, крык, лямант, міліцыя. Супрацоўнікі Маладзечанскага РАУС разам з гэтымі небаракамі шукалі рэчы па прылеглай тэрыторыі, і ў адным са смецевых бакаў знайшлі раскіданыя рэчы, якія ляжалі ў пакінутай сумцы і скрынку ад тэлефона з грашыма. А саму сумку не знайшлі — яе і скралі.

Хтосьці скажа, што рабаўнік памыліўся. Але ці так насамрэч? Можа, справа ў тым, што грошы былі ў доларах? Вось і наш Нацбанк з 1 кастрычніка зніжае памер абавязковага продажу валютнай выручкі з 20% да 10%. Як паведамляе прэс-служба Нацбанка, такое рашэнне прынята ў рамках палітыкі лібералізацыі валютных адносін і з улікам стабільнай сітуацыі на валютным рынку, якая доўгі час характарызуецца ўстойлівым перавышэннем прапановы замежнай валюты над попытам на яе.

То бок, долары нам проста не патрэбныя — давай рублі.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### Ігар Комлік



**Мінскі гарадскі суд разгледзеў касацыйную скаргу на рашэнне суда Партызанскага раёна аб змены меры стрымання ў дачыненні да прафсаюзнага актывіста.**

Скарга не задаволеная: Комлік будзе і надалей утрымлівацца пад вартай, з меншага, пакуль не завершыцца следства па крымінальнай справе аб ухіленні ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры.

Нагадаем, супрацоўнікі Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю Беларусі 2 жніўня правяліператрус і канфіскацыю кампутараў і фінансавых дакументаў у офісе прафсаюза РЭП і цэнтральнага офіса БНП. Былі затрыманыя старшыня РЭП Генадзь Фядыніч і бухгалтар Ігар Комлік. Генадзя Фядыніча дапыталі і адпусцілі да суда, а Ігара Комліка пакінулі пад вартай. Яго трымаюць у следчым ізалятары №1 Мінска.

Праваабарончыя арганізацыі Беларусі 3 жніўня заявілі, што лічаць Ігара Комліка палітвязнем. Па словах праваабаронцаў, распачатая супраць прафсаюзных лідараў крымінальная справа палітычна матываваная, звязаная з актыўнай прафсаюзнай дзейнасцю і мірным ажыццяўленне права на свабоду асацыяцый.

### Зміцер Дашкевіч



**Лідар зарэгістраванага ў Чэхіі «Маладога фронту» працягвае змаганне за прызнанне бел-чырвона-белага сцягу гісторыка-культурнай каштоўнасцю.**

На 26-ю гадавіну прысваення бел-чырвона-беламу сцягу і гербу «Пагоня» статусу дзяржаўных сімвалаў, 19 верасня, Зміцер Дашкевіч і блогер Эдуард Пальчыс прынеслі ў Міністэрства культуры 18-старонкавае навукова-гістарычнае абгрунтаванне, якое некалькі месяцаў па архівах збіраў кандыдат гістарычных навук Аляксандр Кур'яновіч.

Нагадаем, у мінулым годзе актывісты сабралі больш за 10 тысяч подпісаў за наданне бел-чырвона-беламу сцягу статусу нематэрыяльнай гісторыка-культурнай каштоўнасці. Мінкульт праз некалькі месяцаў адказаў, што няма дакументальных доказаў гістарычнай каштоўнасці сцяга.

«Год таму ў адказ на 10 000 сабраных подпісаў яны сказалі, што трэба прыцягнуць прафесійных гісторыкаў і выдаткаваць шмат бюджэтных грошай на даследаванні. Вось мы гэта даследаванне і даем, якое зрабіў у адзіночку, бясплатна і за пару месяцаў кандыдат гістарычных навук Аляксандр Кур'яновіч», — напісаў Эдуард Пальчыс.

Гістарычную сімволіку афіцыйна прызналі дзяржаўнай 19 верасня 1991 года. Бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня» былі дзяржаўнымі сімваламі да рэферэндуму 1995 года, калі Лукашэнка змяніў іх на падобныя да савецкіх.

### Алена Танкачова



**Вядомай праваабаронцы ў чарговы раз не дазволілі датэрмінова вярнуцца ў Беларусь. Такое рашэнне прыняў суд Цэнтральнага раёна Мінска.**

У Алены Танкачовай расійскае грамадзянства. Але яна 30 гадоў пражыла ў Беларусі. У 2014 годзе МУС пазбавіла яе дазволу на жыхарства і забараніла тры гады ўязджаць у краіну. У 2015-м яе канчаткова дэпартавалі.

Афіцыйнай падставай для дэпартацыі сталі штрафы за перавышэнне хуткасці. Праваахоўныя органы палічылі, што такія паводзіны Танкачовай «пагражаюць грамадскаму парадку». Сама ж Алена звязвае сваю высылку з краіны з праваабарончай дзейнасцю, якая не падабалася ўладам. Танкачова аплаціла штрафы і некалькі разоў сама звярталася ў МУС з хадайніцтвам пра скарачэнне тэрміну дэпартацыі, але кожны раз атрымлівала адмовы.

У ліпені праваабаронцы і чальцы грамадскіх арганізацый вырашылі ад свайго імя звярнуцца ў суд і дамагчыся для Танкачовай права вярнуцца ў Беларусь. «Суд Цэнтральнага раёна пагадзіўся з МУС, якое выступала супраць скарачэння тэрміну дэпартацыі. На іх думку, для таго, каб мы самі, як грамадзяне Беларусі, прасілі аб уездзе ў краіну Танкачовай, нам патрэбная была даверанасць ад яе», — распавяла адна з заяўнікаў, дырэктар Цэнтра прававой трансфармацыі Вольга Смалянка.

Забарона на ўезд Танкачовай у Беларусь мінае ў лютым 2018 года.

Азбука паліталогіі

# Ідэалогія ў лампасах



Сяргей НІКАЛЮК

**Дзяржаўныя ідэолагі маюць рацыю: еўрапейскія каштоўнасці несумяшчальныя з культурнай ідэнтычнасцю беларускай «большасці».**

**Усе значныя рашэнні ў нас прымаюцца паводле метаду «ісці ад жыцця». Гэта наш фірмовы стыль. З ім мы звязваем свае надзеі на тое, што Беларусь будзе вечна жыць і квітнець. Гэта надзея замацаваная ў дзяржаўным гімне.**

Аднак плямы бываюць не толькі на сонцы. Пры першых жа спробах перайсці ад слоў да справы высвятляецца, што жыццё ў кожнага сваё, і таму тыя, хто «ідзе ад жыцця», не маршыруюць адзінай калонай, а разбягаюцца ў розныя бакі, нібы тараканы.

Аўтар «азбукі паліталогіі» — пенсіянер, які цэлымі днямі ляжыць на канапе. А калі ўлічыць, што канапа размешчаная на першым паверсе, дык нескладана зразумець, які паліталагічны гарызонт даступны для агляду.

Цікава, а якая карціна адкрываецца з верхніх узроўняў уладнай «вертыкалі», калі пры гэтым стаяць па стойцы «смірна» і рукі трымаць па швах?

На гэту тэму можна пафантазаваць, але навошта, калі існуе часопіс «Беларуская думка», у якім друкуюцца паважаныя людзі, чые нагавіцы часам упрыгожваюць лампасы. Чытачам НЧ пашчасціла. У жнівеньскім нумары часопіса апублікаваны артыкул «Асновы кансалідацыі грамадства». Яго аўтар — генерал-маёр, начальнік галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы Міністэрства абароны Аляксандр Гура.

Але перш чым перайсці да аналізу артыкула, прапаную адну цытату. Унікаць у яе сэнс не абавязкова. Тым не менш яна дапаможа нам зразумець, ад якога жыцця «ідзе» аўтар і якая карціна адкрываецца яму з акна генеральскага кабінета.

Цытую: «З прычыны павярхоўнага разумення дамінанты нацыянальных інтарэсаў суб'ектамі ідэалагічных дзеянняў, надзеленых дзяржавай адпаведнымі паўнамоцтвамі, з аднаго боку, не заўсёды здольныя самі ініцыяваць працэсы, якія дамінаваныя нацыянальнымі інтарэсамі, з другога — своечасова разабрацца ў ініцыятывах, якія праходзяць пад прыгожай шыльдай патрыятызму».




**У генеральскай трактоўцы — гэта тыповы прадукт аўтарытарнай дзяржавы, якая імітуе дэмакратыю. Адтуль жа вырастае ўяўленне пра беларускі народ як шматнацыянальны, шматканфесійны сплаў**

## Інтэрферэнцыя двух слэнгаў

Ад якога жыцця і колькі гадоў трэба ісці, каб фармуляваць думкі падобным чынам? Той, хто лічыць, што перад намі бессэнсоўны набор слоў, — памыляецца. Асабіста я з трэцяй спробы ўсё зразумеў і гатовы падзяліцца набытымі ведамі. Але які стыль!

Мова кожнай прафесійнай групы ўтрымлівае асаблівыя словы (слэнг), і гэта зусім не словы-паразіты. Функцыяй слэнгу, як падказваюць слоўнікі, з'яўляецца маскіроўка інфармацыі ад людзей, не дасведчаных у гэтым відзе прафесійнай дзейнасці. Але што і ад каго спрабуе схаваць палітработнік з лампасамі? Мяркую, нічога і ні ад каго. Ён папросту інакш не можа выказваць свае думкі, а яны ў яго ёсць, і нават з лішкам.

Прыведзеная цытата — вынік своеасаблівай інтэрферэнцыі (узаемнага накладання) двух слэнгаў: ідэалагічнага і армейскага. Адсюль такая канцэнтрацыя сэнсаў у адным сказе.

Але час перайсці да перакладу. Пачну з суб'ектаў ідэалагічных дзеянняў (СІД). Хто гэта? Ды ўсе знаёмыя нам асобы. Гэта штатныя ідэолагі, работнікі ідэалагічнай вертыкалі. Чым яны адрозніваюцца ад простых смяротных? Наяўнасцю асаблівых паўнамоцтваў, якімі іх надзяліла дзяржава. Што гэта за паўнамоцтвы? Адказ на гэта пытанне можна знайсці ў дакладзе адзінага палітыка (АП) на ідэалагічным семінары, які адбыўся ў сакавіку 2003 года.

Але спачатку нам неабходна разабрацца, што ж такое «ідэалогія». Прымем у якасці базавага вызначэння наступнае: «Ідэалогія для дзяржавы — тое ж самае, што імунная сістэма для жывога арганізму». Такім чынам, канчатковай мэтай ідэалогіі з'яўляецца абарона дзяржавы шляхам знішчэння чужародных элементаў (агентаў «пятай калоны», дармаедаў і г.д.).

У жывых арганізмах гэту функцыю выконваюць асаблівыя клеткі — лімфацыты. На іх ускладзеныя дзве задачы: па-першае, кантроль якасці клетак свайго арганізма і распазнанне чужых; па-другое, стымуляванне дзейнасці антыцелаў па знішчэнні «адшчапенцаў» і «чужынцаў». У дзяржаўнай ідэалогіі аналагічныя задачы выконваюць штатныя ідэолагі, а калі скарыстацца генеральскім слэнгам — СІД.

Але, як вядома, у працы імунных сістэм здараюцца «праколы». Не свабодная ад іх і дзяржаўная ідэалогія. Гэтай праблемай і заклапочаны генерал-маёр.

## Утрымаць і абараніць

СІД павярхоўна разумеюць дамінанты нацыянальных інтарэсаў. Праблема гэта нарадзілася не сёння. У аўтарытарных дзяржавах, якія імітуюць дэмакратыю, не так лёгка адрозніць дэклараваныя інтарэсы ад сапраўдных.

Напрыклад, у дакладзе АП, які мы ўжо цытавалі, сцвярджаецца, што «часам, лёсам, сітуацыяй Беларусь высунулася на, напэўна, вялікую ролю духоўнага лідара ўсходнееўрапейскай цывілізацыі». Вось такая дамінанта. Тым, хто яе прымае, застаецца толькі ўзмахнуць крыльцамі і ўзляцець. Але ёсць і іншае вызначэнне. У падручнікі па дзяржаўнай ідэалогіі яно не ўвайшло. «Ідэалагічная работа забяспечвае не толькі інтарэсы грамадства і народа, але шмат у чым і ўлады. Калі хочаце, утрымання ўлады. <...> **Таму трэба не толькі ўтрымліваць уладу. І не толькі ўтрымліваць, але і абараняць. І лепш за ўсё гэта рабіць ідэалагічнымі сродкамі»** (вылучана ў Інфабюлетэні АП РБ №4, 2003 г.).

Вось такія супярэчлівыя ўводныя. Як тут своечасова разабрацца ў ініцыятывах, якія праходзяць пад прыгожай шыльдай патрыятызму? Галава кругам ідзе. Што ўжо тады казаць пра іх самастойнае вылучэнне. А вылучаць патрэбна не проста ініцыятывы, а «ініцыяваць працэсы, якія дамінаваныя нацыянальнымі інтарэсамі».

Тут самы час паразважаць пра нацыянальныя інтарэсы. Генеральскі артыкул нашпігаваны імі, быццам кекс за 16 капеек у гады маёй маладосці (не блытаць з кексам за 14 капеек!).

Пачну з вызначэння. Нацыянальныя інтарэсы — сукупнасць патрэб дзяржавы па рэалізацыі збалансаваных інтарэсаў асобы, грамадства і дзяржавы. Пры гэтым генерал падкрэслівае, што гаворка ідзе пра нацыянальныя, а не нацыяналістычныя інтарэсы. Гэта значыць, пра інтарэсы «шматнацыянальнага, шматканфесійнага, шматэтнічнага чалавечага сплаву, які называецца народ Беларусі...».

З чым тут можна паспрачацца? У беларускай дзяржавы, аказваецца, ёсць інтарэсы, адрозныя ад інтарэсаў грамадства! З якога артыкула Канстытуцыі гэта вынікае?

У артыкуле 1 зафіксаваны дэмакратычны характар беларускай дзяржавы, а ў артыкуле 2 — правы і свабоды чалавека ў якасці вышэйшай каштоўнасці. У артыкуле 3 падкрэсліваецца, што адзінай крыніцай дзяржаўнай улады і носьбітам суверэнітэту з'яўляецца народ. Прынцып ажыццяўлення дэмакратыі на аснове разнастайнасці палітычных інстытутаў, ідэалогій і меркаванняў замацаваны ў артыкуле 4.

Такім чынам, дзяржаўныя інтарэсы ў генеральскай трактоўцы — гэта тыповы прадукт аўтарытарнай дзяржавы, якая імітуе дэмакратыю. Адтуль жа вырастае ўяўленне пра беларускі народ як шматнацыянальны, шматканфесійны сплаў. Звярніце ўвагу, гэты сплаў не ўтрымлівае палітычнага складніку. Ён не ўключае разнастайнасць інстытутаў, ідэалогій і меркаванняў.

## Нібыта еўрапейскія каштоўнасці

Паводле ўласнага прызнання АП, сфармуляваць нацыянальную ідэю (чытай, нацыянальную ідэалогію) «адміністрацыйным чынам» не атрымалася. З гэтага факту не вынікае, што СІД дарма ядуць свой хлеб з маслам. Як паказала шматгадовая практыка, ідэалагічная вертыкаль можа выдатна функцыянаваць і пры адсутнасці нацыянальнай ідэі. Больш таго, без яе публічнага афармлення, бо ідэя ўтрымання ўлады для тых, хто ўладай валодае, з'яўляецца самакаштоўнай і ў тэарэтычных мыліцах не мае патрэбы.

У свой час бальшавікі ішлі да ўлады пад сцягамі сусветнай рэвалюцыі. Уладу яны захапілі, але з сусветнай рэвалюцыяй выйшла асечка. Ідучы ад жыцця, яны былі вымушаны распачаць будаўніцтва сацыялізму «ў асобна ўзятай краіне», для чаго з падданых-інтэрнацыяналістаў у спешным парадку давялося фармаваць падданых-патрыётаў.

Нескладана заўважыць, што на досвітку сваёй палітычнай кар'еры АП сутыкнуўся з аналагічнай праблемай. У 1994 годзе заклік «Назад у СССР» адыграў далёка не апошнюю ролю ў яго перамозе на першых прэзідэнцкіх выбарах. Але не дзеля гэтага набываўся браніраваны лімузін і будаваўся Палац Незалежнасці. І таму суверэнітэт сёння — гэта святое!

Суверэнітэт у яго цяперашнім выглядзе задавальняе далёка не ўсіх. Галоўная пагроза, на думку генерал-маёра, зыходзіць ад тых, хто пад лозунгам «Беларусь — у Еўропу» імкнецца растварыць нацыянальна-культурную ідэнтычнасць шляхам прапаганды нібыта еўрапейскіх каштоўнасцяў.

І гэта праўда. Еўрапейскія каштоўнасці несумяшчальныя з культурнай ідэнтычнасцю беларускай «большасці», той самай «большасці», на якую абапіраецца персаналісцкая аўтарытарная ўлада. Што тычыцца ідэнтычнасці «меншасцяў», дык аўтар «Асноў кансалідацыі грамадства» наяўнасць такой ідэнтычнасці лічыць за лепшае не заўважаць. Інакш у рамках дзяржаўнай ідэалогіі кансалідацыі грамадства не дасягнуць.

# Пацыент, хутчэй, мёртвы: што выратуе беларускую адукацыю?

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Бясконцыя эксперыменты і рух «наперад у мінулае» прывядуць да краху беларускай сістэмы адукацыі і масавага адтоку выпускнікоў школ у замежныя ВНУ.**



### Па слядах туркменскага дыктатара

Нацыянальная сістэма адукацыі мае патрэбу ў рэформах, як у паветры. І яны нібыта адбываюцца, ды ў выніку становіцца толькі горш. Чарговая пагроза набірае маштаб паводле таго, як гучаць выказванні прэзідэнта. Напрыклад, кіраўнік дзяржавы неаднаразова заклікаў да скарачэння тэрмінаў навучання ў ВНУ.

«Трэба раз і назаўжды вызначыцца (першы раз мы ўжо падразалі тэрміны навучання): калі мы за тры гады можам падрыхтаваць спецыяліста, то давайце рыхтаваць за тры гады і давучваць чацвёрты на вытворчасці, хай ён там праходзіць спецыялізацыю. Трэба вярнуцца яшчэ раз да гэтага пытання. Вучоба і вытворчасць. Дзве гадзіны ў аўдыторыі, потым паехалі ў поле, да станка — дзве ці тры гадзіны там, цікавей будзе вучыцца. Чалавек ужо будзе атрымліваць веды, неабходныя, каб працаваць на гэтым станку», — заявіў Аляксандр Лукашэнка, звяртаючыся сёлета ў красавіку да ўрада і народа.

Таксама Лукашэнка даручыў Міністэрству адукацыі і іншым ведамствам аб'ектыўна ацаніць, «ці не з'яўляецца залішнім для Беларусі існая колькасць ВНУ, якіх больш за пяцьдзясят».

Такім чынам кіраўнік Беларусі свядома вядзе да краху ўсю сістэму адукацыі ў краіне. Каб пераканацца ў гэтым, варта ўгадаць, што падобнае «рэфармаванне» ўжо калісьці апрабавалі ў Туркменістане. У 1998–2000 гадах загадамі тагачаснага прэзідэнта краіны Сапармурата Ніязава была скарочана працягласць сярэдняй і вышэйшай адукацыі ў краіне: 9 гадоў навучання ў школах, усяго два гады ў ВНУ (дадатковыя два гады займала практыка). Былі ліквідаваныя інстытуты павышэння кваліфікацыі настаўнікаў, уведзена забарона на ўкараненне новых метадаў навучання.

Ніязаў абвясціў несапраўднымі ўсе дыпломы замежных ВНУ, якія былі выдадзеныя за апошнія 10 гадоў, а таксама тыя, якія былі атрыманы па-за афіцыйнымі дзяржаўнымі праграмамі. Студэнты, якія навучаліся за мяжой, павінны былі пацвердзіць сваю кваліфікацыю шляхам здачы іспыту па прафесіі (а таксама па напісаным прэзідэнтам эпасе «Рухнама»).

У 2003 годзе была абвешчана забарона паступаць у інстытут адразу пасля школы (для паступлення патрабавалася адпрацаваць два гады). Адначасова быў усталяваны добраахвотны прызыў у войска з 17 гадоў (хоць па-ранейшаму афіцыйна прызыў заставаўся з 18 гадоў).

Наступны прэзідэнт Туркменістана Гурбангулы Бердымухамедаў вярнуў дзесяцігадовую адукацыю ў школы. Таксама ён прыняў закон аб падаўжэнні вучобы ў ВНУ да 5 гадоў. У 2013 годзе ў школах Туркменістана было ўведзена 12-гадовае навучанне, а таксама шэраг новых дысцыплін. Аднак дасюль рэанімаваць сістэму туркменскай адукацыі (прынамсі, вышэйшай) не атрымалася. Па-ранейшаму сярод ВНУ Туркменістана адсутнічае сегмент прыватнага навучання, усе вышэйшыя навучальныя ўстановы краіны знаходзяцца ў дзяржаўным падпарадкаванні. Яны здольныя прыняць толькі 1 з 5 выпускнікоў сярэдніх школ, якія жадаюць атрымаць вышэйшую адукацыю. Павялічыць колькасць месцаў у ВНУ ўрад не можа праз недахоп кваліфікаваных выкладчыкаў.

Не маючы магчымасці паступіць у мясцовыя ВНУ, маладыя туркмены з'язджаюць вучыцца за мяжу, у тым ліку ў Беларусь. У нашай краіне яны складаюць большасць студэнтаў-замежнікаў — у мінулым навучальным годзе іх налічылі больш за 8 тысяч (гэта ў пяць разоў больш, чым студэнтаў з Расіі). Як вынік, на сённяшні дзень Туркменістан — адзіная краіна ў свеце (за выключэннем некаторых карлікавых дзяржаў), у якой дома вышэйшую адукацыю атрымлівае менш студэнтаў, чым за мяжой. З улікам недахопу вакансій для выпускнікоў ВНУ і ў цэлым нізкай якасці жыцця ў Туркменістане, атрымаўшы дыплом і шанец працаўладкавацца за мяжой, маладыя людзі ў Туркменістан не вяртаюцца.

### Паскарэнне рэформ — у інтарэсах усяго грамадства

Такая перспектыва можа стаць абсалютна рэальнай і для Беларусі — ужо цяпер многія беларускія выпускнікі з'язджаюць вучыцца ў еўрапейскія ці хаця б расійскія ВНУ. А ўзровень падрыхтоўкі тых, хто застаецца на Радзіме, нізкі, і штогод ён працягвае падаць. Менавіта таму нашай сістэме адукацыі так неабходныя рэформы. І іх Беларусь можа рэалізоўваць двума шляхамі.

Першы — той, па якім спрабуе ісці кіраўнік дзяржавы, які, зрэшты, адчувае праблему — адрыў адукацыі ад патрабаванняў рынку працы. Аднак ён прапануе лекі, горшыя за саму хваробу. Куды можа прывесці такі шлях, мы бачым на прыкладзе Туркменістана.

Другі шлях — Балонскі працэс, да якога Беларусь, хоць і з рыпеннем, умоўна, але ўсё ж далучылася ў 2015 годзе. Наша краіна зрабіла гэта на 16 гадоў пазней, чым яго «піянеры». Каб наблізіцца да краін-лідараў, для нас была распрацавана Дарожная карта рэфармавання вышэйшай адукацыі, дзе адлюстраваны ўсе крокі, якія Беларусь абавязалася рабіць, каб далучыцца да Еўрапейскай прасторы вышэйшай адукацыі (ЕПВА). У аснову Дарожнай карты пакладзены еўрапейскія акадэмічныя каштоўнасці: акадэмічная свабода і універсітэцкая аўтаномія, роўнасць доступу да вышэйшай адукацыі і дэмакратычныя метады кіравання. Дакумент прадугледжвае ўнясенне зменаў у заканадаўства, стварэнне Нацыянальнай рамкі кваліфікацый, арганізацыю студэнцкай і выкладчыцкай мабільнасці...

І хоць не ўсе прапановы Лукашэнкі знаходзяць увасабленне ў рэальным адукацыйным працэсе, на жаль, еўрапейскі варыянт рэфармавання таксама рухаецца не ў тым тэмпе, якога патрабуе Дарожная карта. Справаздачу аб яе выкананні Беларусь дасць на саміце міністраў адукацыі, які адбудзецца ў траўні 2018 года ў Парыжы. Але ці ёсць тут пра што казаць?

Пра тое, як развіваецца Балонскі працэс у нашай краіне, з афіцыйных крыніц даведацца амаль немагчыма. На сайце Міністэрства адукацыі можна знайсці хіба што асноўныя дэкларацыі і камюніке, але ніякага маніторынгу не прадстаўлена. У меру сваіх магчымасцяў за працэсам сочыць спецыяльна створаная група (Advisory group). Маніторынгавыя звесткі для яе (а таксама для іншых еўрапейскіх структур) прадастаўляюць Грамадскі Балонскі камітэт і ad hoc камісія на базе Нацыянальнай платформы Форума грамадзянскай супольнасці Усходняга партнёрства. Менавіта яны ствараюць альтэрнатыўныя даклады і справаздачы па імплементацыі Дарожнай карты ў Беларусі. І высновы экспертаў у гэтых дакладах несуцяшальныя: тэмпы рэфармавання не скарачаюць разрыў паміж Беларуссю і перадавымі краінамі, а толькі працягваюць яго павялічваць.

«На сённяшні дзень Беларусь выканала менш за 30% узятых на сябе абавязальніцтваў па Дарожнай карце. Гэта значыць, што да траўня 2018 года мы мусім выканаць астатнія 70%, што выглядае маларэалістычна. Пакуль што зроблены толькі пэўныя крокі, напрыклад, тэхнічная рэформа трохпрыступкавай сістэмы адукацыі ўнесена ў праект зменаў у Кодэкс аб адукацыі. Але гэта толькі нязначная частка. Не вядзецца ніякая праца адносна Нацыянальнай рамкі кваліфікацый, не вырашана пытанне з аўтаноміяй універсітэтаў, няма паляпшэння сітуацыі з рэгістрацыяй студэнцкіх арганізацый», — адзначаў у інтэрв'ю сайту eurobelarus.info сябра ad hoc камісіі па маніторынгу выканання Дарожнай карты рэфармавання вышэйшай адукацыі Андрэй Ягораў.

На сённяшні дзень Дарожная карта — адзіная прынятая Беларуссю сістэма рэфармавання, ігнаруючы якую наша краіна дэманструе сваю няздольнасць выконваць узятыя на сябе міжнародныя абавязацельствы і выглядае як абсалютна ненадзейны партнёр у вачах еўрапейскай супольнасці. Таму ў інтарэсах усяго грамадства паскорыць рэфармаванне адукацыі. Гэтаму паспрыяў бы працяг Дарожнай карты з, магчыма, больш жорсткім і канкрэтным планам рэфармавання. Але вырашаць, ці даваць Беларусі другі шанец, праз паўгода будуць міністры адукацыі краін-удзельніц балонскай сям'і.

**Каб наблізіцца да краін-лідараў, для нас была распрацавана Дарожная карта рэфармавання вышэйшай адукацыі, дзе адлюстраваны ўсе крокі, якія Беларусь абавязалася рабіць, каб далучыцца да Еўрапейскай прасторы вышэйшай адукацыі (ЕПВА)**



# Чалавек, які мог бы аб'яднаць нацыю


Photo.bymedia.net

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Генадзю Карпенку 17 верасня споўнілася б 68 гадоў. Ён мог бы стаць сапраўдным прэзідэнтам Беларусі, хаця быў украінцам па нацыянальнасці. Ён здолеў бы правесці неабходныя рэформы і вывесці краіну на новы ўзровень, забяспечыць яе грамадзянам годны ўзровень жыцця і сяброўства з суседзямі. Дэпутат і навуковец-вынаходнік, доктар навук і кіраўнік аднаго з буйных беларускіх заводаў, а затым і гарадоў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР і намеснік старшыні Вярхоўнага Савета. І ўсё гэта ў няпоўную палову стагоддзя. Такім дасягненням можа пазайздросціць кожны.**

## Прыхільнік інавацый

Вырашальным момантам у жыцці Генадзя Карпенкі стала яго абранне дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання ў сакавіку 1990 года ад Маладзечанскай-Купалаўскай акругі. Дырэктар Маладзечанскага завода парашковай металургіі, якому толькі-толькі мінула сорак гадоў, упэўнена абышоў сваіх дваіх канкурэнтаў (адзін з іх — сакратар Мінскага абкома КПБ) ужо ў першым туры.

На гэтым Карпенка не спыніўся і, атрымаўшы дэпутацкі мандат, вылучыў сваю кандыдатуру на пасаду старшыні пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета па навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе. Аргументы ў Карпенкі былі даволі моцныя. Стаўшы ў лютым 1987 года дырэктарам завода, Генадзь Карпенка ператварыў стратнае (2,5 мільёна рублёў пазыкі) прадпрыемства ў прыбытковае. Пры абмеркаванні кандыдатуры Карпенкі прагучала інфармацыя, што працоўныя завода харчуюцца задарма. Дзвесце дэпутатаў без ваганняў аддалі свае галасы за Карпенку, які мусіў пакінуць пасаду дырэктара, бо вырашыў працаваць старшынёй камісіі. Дэпутат Мікалай Гарэлік заявіў, што «в Карпенко сочетаются ум ученого и энергия практика».

Галоўную задачу ў працы камісіі Карпенка бачыў ва ўзмацненні сувязі навукі і вытворчасці, ліквідацыі бюракратычных перашкодаў: «Между институтами и заводами стоит огромная пропасть по внедрению разработок. Сегодня ни один ученый не может пробить стену на предприятии со своими разработками, эту стену надо раздолбать». Гэтыя словы Карпенкі ў 1990 годзе на пасяджэнні сесіі Вярхоўнага Савета 1 чэрвеня 1990 года былі падтрыманы буйным партыйным кіраўніком Яфрэмам Сакаловым. Тады ж Генадзь Дзмітрыевіч прамовіў літаральна прароцкія словы: «Надо направлять средства в наукоёмкие технологии. Если мы хотим быть богатыми, то должны плясать от научно-технического прогресса».

На жаль, на той час многімі кіраўнікамі і дэпутатамі гэта не ўсведамлялася, яны жылі старымі штампамі. Напрыклад, па Шклоўскай выбарчай акрузе №310, дзе падчас выбараў у Вярхоўны Савет 12-га склікання ў 1990 годзе вылучаўся Аляксандр Лукашэнка, балатаваўся і дырэктар эксперыментальнай фабрыкі «Спартак» Уладзімір Громаў, які ў сваёй перадвыбарчай праграме ратаваў за выкананне авантурнай Харчовай праграмы, зацверджанай яшчэ пры Брэжневе.

Альбо іншы прыклад. 5 чэрвеня 1990 года на пасаду старшыні пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета БССР 12-га склікання па пытаннях архітэктуры, будаўніцтва, вытворчасці будаўнічых матэрыялаў і жыллёва-камунальнай гаспадаркі горада і сяла прэтэндаваў Мікалай Карніевіч — высокапастаўлены чыноўнік у сістэме ЖКГ. Калі адзін з дэпутатаў спытаўся, ці верыць спадара Карніевіч у тое, што кожны сям'я рэспублікі будзе да 2000 года забяспечана асобнай кватэрай ці ўласным домам, той шчыра адказаў станоўча.

Ва ўмовах паглыблення эканамічнага крызісу і непазбежнага распаду Савецкага Саюза Генадзь Карпенка разумеў, што адным з перспектыўных сектараў эканомікі з'яўляецца прадпрымальніцтва. 17 верасня 1991 года, вылучаючы сваю кандыдатуру на пасаду старшыні Вярхоўнага Савета, Карпенка сцвярджаў: «За счёт усиления налогового пресса мы не выживем, надо развивать предпринимательство и малый бизнес».

Тады кандыдатура Карпенкі не была падтрыманая парламенцкай большасцю, а галоўная барацьба за пасаду разгарнулася паміж Станіславам Шушкевічам і Вячаславам Кебічам.

## «Горад Сонца»

Аднак Карпенка ўжо даваў «зялёнае святло» прадпрымальнікам і бізнесменам на рэгіянальным узроўні. З вясны 1991 года Карпенка ўзначаліў пасаду старшыні выканкаму Маладзечанскага гарадскога Савета народных дэпутатаў, стаўшы, як гавораць у народзе, «мэрам». Яго намеснікам быў малады дэпутат Віктар Ганчар. Разам яны спрабавалі рэалізаваць такія праекты, якія істотна змянялі і знешні выгляд (напрыклад, будаўніцтва стадыёна), і атмасферу горада. Сапраўднай візітнай карткай горада стаў Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі, а таксама конкурс маладых выканаўцаў эстраднай песні. І гэта не дзіўна, бо Генадзь Карпенка ў

**Карпенка выступіў супраць чарговага рэферэндуму, які прадугледжваў ліквідацыю Вярхоўнага Савета і істотнае ўмацаванне прэзідэнцкіх паўнамоцтваў. Ён быў сярод тых дэпутатаў, хто падпісаўся за імпічмент беларускаму кіраўніку**

Вярхоўным Савеце Беларусі 12-га склікання быў яшчэ і чальцом камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, якую ўзначальваў Ніл Гілевіч.

У ліпені 1993 года тагачасны карэспандэнт «Народнай газеты» Павел Якубовіч у адным з нумароў гэтага выдання, верагодна, у парыве пачуццяў назваў Маладзечна «горадам Сонца» — па аналогіі са знакамітым творам Тамаза Кампанелы.

У часе працы ў Маладзечне адбылася падзея, якая таксама са станоўчага боку характарызуе Карпенку: 16 красавіка 1992 года ён пакінуў пасаду старшыні парламенцкай камісіі і цалкам сканцэнтраваўся на маладзечанскіх справах. Цікава, што ў кіраўніцтва Вярхоўнага Савета была думка скасаваць камісію па навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе альбо зліць яе з іншай камісіяй у фармаце рэарганізацыі Вярхоўнага Савета ў цэлым. Аднак, развітваючыся з камісіяй і звяртаючыся да Шушкевіча, Карпенка сказаў: «У нас нет ресурсов, единственный источник существования республики — это её мозг». У выніку 16 красавіка 1992 года за скасаванне камісіі прагаласавалі толькі 116 дэпутатаў пры неабходным кворуме ў 174 галасы.

Канешне, напэўна падчас працы ў Маладзечне Карпенка і яго каманда сутыкаліся з вялікімі цяжкасцямі. На жаль, не ўсё, што было запланавана, удалося ажыццявіць. Гэта імкнуліся скарыстаць яго ворагі і зайздроснікі, палітычныя праціўнікі. Так, 11 красавіка 1995 года пры абмеркаванні пытання на агульнарэспубліканскі рэферэндум аб эканамічнай інтэграцыі з Расіяй Карпенка канстатаваў катастрафічны стан беларускай эканомікі. Адказ абуранага беларускага кіраўніка быў наступным: «Вы уже город солнца построили. Вернитесь и достройте тот Бродвей с банками. Там ужас, что происходит». 7 сакавіка 1996 года дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання і асабісты стаўленік Лукашэнкі Уладзімір Канаплёў заявіў, што ў працы Карпенкі ў Маладзечне нібыта не ўсё чыста.

Карпенка рашуча рэагаваў на паклёпніцкія публікацыі на свой адрас у бытнасць маладзечанскім «мэрам». У Нацыянальным архіве ў асабістым фондзе №1376 Генадзя Дзмітрыевіча захавалася рашэнне суда Партызанскага раёна Мінска ад 28 снежня 1995 года. Паводле рашэння суда, інфармацыя ў артыкуле «Справедливый город Молодечно. Кто не согласен с Карпенко, пусть ищет себе другой приют» («Газе-


**Намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Генадзь Карпенка, першы намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Васіль Новікаў, старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі і намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Юрый Малумаў**

та Андрея Климова», 5 мая 1995 года) абвяшчалася паклёпніцкай (быццам бы незаконны продаж аб'ектаў гандлю і г.д.), а само выданне павінна было сплаціць Карпенку 10 000 000 рублёў.

Калі ў «Народнай газеце» ў нумары за 2 кастрычніка 1996 года (да гэтага часу газета была захоплена прэзідэнцкімі структурамі і выведзена з-пад кантролю Вярхоўнага Савета) з'явіўся артыкул аўтара Кастрова «Пятое измерение Геннадия Карпенко», былы «мэр» без ваганняў падаў у суд. Карпенка ў судовым іску (які таксама захоўваецца ў яго асабістым фондзе) пераканаўча даказаў ілжывасць абвінавачванняў Кастрова (дарэчы, нягледзячы на ўсе намаганні істца, «Народная газета» так і не выдала сапраўднага імені свайго «героя»). Напрыклад, Кастроў даказваў, што будучы «мэрам», Карпенка яшчэ ў 1989 годзе незаконна атрымаў у Маладзечне трохпакаёвую кватэру. «Журналіст» Кастроў нават не ўдасужыўся праверыць, што Карпенка на той час быў дырэктарам завода, а горад узначаліў толькі ў 1991 годзе. Да таго ж кватэру Карпенка атрымаў на законнай падставе, як спецыяліст з іншай мясцовасці на прадпрыемстве з унікальнай вытворчасцю. Суму іску Карпенка вызначыў у 2 мільярды 500 тысяч рублёў, аднак не дачакаўся заканчэння суда...

## «Сумленны маклер»

Канешне, Карпенка любіў уладу. У артыкуле «Власть — понятие реальное» (Народная газета. — 1992. — 17 снежня.) Карпенка адзначаў неабходнасць «резкого усиления исполнительных органов и персональной ответственности». Аднак Генадзь Дзмітрыевіч лічыў, што шлях да яе павінен быць сумленным. Гэта яскрава праявілася падчас першай прэзідэнцкай кампаніі. Карпенка вырашыў вылучыцца і атрымаў падтрымку калег-дэпутатаў (паводле тагачаснага заканадаўства, кандыдат на пасаду прэзідэнта мог заручацца не менш як 70 подпісамі дэпутатаў Вярхоўнага Савета). Адначасова ініцыятыўная група Карпенкі пачала збор подпісаў. Неўзабаве планы тых дэпутатаў, якія падпісаліся за Карпенку, змяніліся: 16 мая 1994 года кіраўнік Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады (БСДГ) Алег Трусаў заявіў, што чальцы грамады адклікаюць свае подпісы, бо падтрымліваюць Шушкевіча. Пасля гэтага на працягу другой паловы мая 1994 года 10 чальцоў БСДГ падалі адпаведныя заявы ў Цэнтральную выбарчую камісію.

Акрамя таго, пачаліся праблемы з подпісамі грамадзянаў (трэба было сабраць не менш за 100 тысяч подпісаў). За Карпенку толькі ў Фрунзенскім раёне сталіцы прызналі несапраўднымі каля 4 тысяч подпісаў. І тады Генадзь Дзмітрыевіч вырашыў не ўдзельнічаць. На пасяджэнні камісіі 31 мая 1994 года ён заявіў, што не мае жадання вылучацца праз «грязные подписи», а таму здымае сваю кандыдатуру. Старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Аляксандр Абрамовіч шчыра падзякаваў Карпенку. Сам жа Карпенка падтрымаў кандыдатуру Зянона Пазьняка.

## Ведаў, чым усё скончыцца...

«Очень важно самому опередить противника в своем негативе...» — такі запіс маецца ў дзённіку Карпенкі, які захоўваецца ў яго асабістым фондзе. Галоўным палітычным праціўнікам Карпенка, безумоўна, для сябе лічыў кіраўніка Беларусі. Пачынаючы з другой паловы 1994 года Карпенка становіцца паслядоўным крытыкам Аляксандра Лукашэнкі. Напрыклад, 30 верасня 1994 года пры абмеркаванні прэзідэнцкай праграмы надзвычайных захадаў па выхадзе эканомікі Беларусі з крызісу Карпенка заявіў, што Адміністрацыя прэзідэнта — антыканстытуцыйны орган, які дэстабілізуе працу ўрада. Карпенка таксама негатыўна паставіўся да «прэзідэнцкай вертыкалі» — такой сістэмы ўлады, пры якой рэгіянальныя кіраўнікі прызначаюцца непасрэдна галавой дзяржавы.

Лукашэнка не заставаўся ў даўгу. 22 жніўня 1995 года ў праграме беларускага тэлебачання прэзідэнт заявіў, што Карпенка нібыта рабіў перашкоды пастаўкам бавоўны ў Беларусь. Неўзабаве Карпенка падаў іск на суму 2 мільярды рублёў і патрабаваў у Лукашэнкі публічных прабачэнняў. 27 жніўня 1998 года Карпенка звярнуўся са скаргай у Вярхоўны суд на імя старшыні Валянціна Сукалы: чаму не разглядаецца іск у адносінах да прэзідэнта. Аднак усё скончылася фармальнымі адпіскамі.

У маі 1995 года Карпенку не пашанцавала ў тым плане, што Партыя народнай згоды, якую ён узначальваў, прайграла парламенцкія выбары: выставіла 115 кандыдатаў, а дэпутацкія мандаты атрымалі толькі трое.

Карпенка вымушаны быў пакінуць пасаду партыйнага лідара (замест яго прыйшоў Леанід Сечка), аднак дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га склікання ўсё ж стаў. Больш за тое, у студзені 1996 года Карпенка быў абраны намеснікам старшыні Вярхоўнага Савета і чальцом Прэзідыуму. У сферу прэрагатыў Карпенкі ўваходзіла: замяшчэнне старшыні ў яго адсутнасць, каардынацыя работы пастаянных камісій: па прамысловасці, транспарце, будаўніцтву, энергетыцы, гандлі і іншых паслугах насельніцтву, сувязі і інфарматыцы; аграрных пытаннях і сацыяльным развіцці вёскі; адукацыі, навуцы і культуры; эканамічнай палітыцы і рэформах; ахове здароўя, фізічнай культуры і спорце.

Адносіны на гэты час паміж Карпенкам і Лукашэнкам былі даволі складаныя. Карпенка, як і раней, крытыкаваў эканамічную і мытную палітыку, задаваў непрыемныя пытанні па сумнавядомай фірме «Торгэкспо», якая чамусьці была вызвалена ад усіх падаткаў і плацяжоў, сцвярджаў, што інцыдэнту пад Ліёзна Віцебскай вобласці ў чэрвені 1994 года, калі быццам бы стрэлілі па машыне Лукашэнкі, — інсцэніроўка. Вастрыё крытыкі Карпенкі было накіравана супраць такой моцнай арганізацыі, як Упраўленне справамі прэзідэнта: яно завалодала лепшымі ў сталіцы будынкамі і з дапамогай арэнды пачало зарабляць вялікія грошы. Генадзь Карпенка быў сярод тых дэпутатаў, якія 7 сакавіка 1996 года галасавалі за стварэнне парламенцкай камісіі па праверцы дзейнасці кіраўніцтва справамі прэзідэнта.



Генадзь Карпенка на адным з мітынгаў з Юрыем Захаранкам (у цэнтры) і Юрыем Хадыкам



Генадзь Карпенка са Стэфаніяй Станютай



Пахаванне Генадзя Карпенкі

Генадзь Дзмітрыевіч стаў на абарону органа Вярхоўнага Савета — «Народнай газеты». Справа ў тым, што Лукашэнка нанёс Вярхоўнаму Савету магутны ўдар, ператвараўшы калектыў «Народнай газеты» ў адкрытае акцыянернае таварыства сваім асабістым указам ад 28 чэрвеня 1996 года і прызначыўшы галоўным рэдактарам Міхаіла Шыманскага. З гэтага часу папулярнае выданне было выведзена з-пад юрысдыкцыі парламента.

Вярхоўны Савет адрэагаваў імгненна. Праца першай сесіі парламента «ў сувязі з неабходнасцю разгляду шэрагу неадкладных пытанняў» была падоўжана да 12 ліпеня 1996 года, а ў сам парадак дня было ўключана пытанне аб «Народнай газеце». У процівагу Міхаілу Шыманскаму Вярхоўны Савет прызначыў галоўным рэдактарам дэпутата Леаніда Юнчыка, а старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі звярнуўся ў Канстытуцыйны суд з нагоды законнасці ўказа прэзідэнта. У рэдакцыі «Народнай газеты», куды прыйшлі работнікі адміністрацыі прэзідэнта з Шыманскім і Юнчык з Карпенкам, адбыўся канфлікт.

Генадзь Карпенка выступіў супраць чарговага рэферэндуму, ініцыяванага Лукашэнкам у 1996 годзе, які прадугледжваў ліквідацыю Вярхоўнага Савета і істотнае ўмацаванне прэзідэнцкіх паўнамоцтваў. Карпенка быў сярод тых дэпутатаў, хто паставіў свой подпіс за імпічмент беларускаму кіраўніку.

## Бой прайграны, а бітва?

Пасля знікнення Вярхоўнага Савета, які дапусціў сур'ёзныя памылкі ў супрацьстаянні з кіраўніком дзяржавы, Карпенка, які і многія іншыя дэпутаты, што не жадалі прымаць Лукашэнку, апынуўся ў статусе пазасістэмнай апазіцыі. Аднак Карпенка не апусціў рукі і працягваў барацьбу. У канцы 1996 года ён стаў ініцыятарам стварэння Грамадскага кааліцыйнага ўрада. У адпаведным мемарандуме ішла гаворка аб неабходнасці вяртання да Канстытуцыі 1994 года. Грамадскі кааліцыйны ўрад быў неўзабаве ператвораны ў Нацыянальны эканамічны савет (НЭС) пад старшынствам Карпенкі.

Пачынаючы з 1997 года НЭС пачаў друкаваць свае рашэнні на падставе статыстычных звестак аб стане эканомікі, даходах насельніцтва. Напрыклад, 21 студзеня 1997 года рашэнне №1 НЭС патрабавала ад уладаў устанавіць з 1 лютага 1997 года мінімальны памер заработнай платы ў 200 тысяч рублёў. Рашэнне №2 НЭС ад 4 лютага 1997 года канстатавала гаротны стан прамысловасці краіны: колькасць стратных прадпрыемстваў дасягнула 50%, скарачаліся рынкі збыту і г.д. Рашэнні НЭС, прынятыя ў сакавіку 1997 года, кваліфікавалі эканамічную палітыку Лукашэнкі ў прадпрымальніцкай сферы і ў сельскай гаспадарцы як тупіковую і антынародную.

У 1998 годзе Нацыянальны эканамічны савет ператварыўся ў Нацыянальны выканаўчы камітэт (НВК) пад старшынствам Генадзя Карпенкі. НВК падзяляўся на шэраг камітэтаў, якія ўзначалілі вядомыя людзі і прафесіяналы: камітэт па эканамічнай палітыцы — Станіслаў Багданкевіч, прамысловы камітэт — Васіль Шлындзікаў, камітэт па міжнародных справах — Андрэй Саннікаў, камітэт па абароне — Павел Казлоўскі, камітэт па адукацыі — Аляксей Кароль і інш.

НВК абвясціў спецыяльныя абавязкі перад народам: істотнае падвышэнне зарплат і пенсій, спрашчэнне падатковай сістэмы, рэструктурызацыю прадпрыемстваў і рэарганізацыю калгасаў і саўгасаў, адмену сістэмы прапіскі і ліцэнзавання большасці відаў дзейнасці, падвышэнне прэстыжу інтэлігенцыі і г.д. У абавязках сцвярджалася, што праз некалькі гадоў большасць беларускіх сем'яў будуць мець аўтамабілі.

На працягу 1998-га і першай паловы 1999 года НВК запланаваў распрацоўку моцнай заканадаўчай базы па ўсіх накірунках: кодэксы, законы, канцэпцыі.

Было бачна, што НВК пад кіраўніцтвам Карпенкі рыхтуецца да прэзідэнцкай кампаніі. У фондзе Карпенкі захаваўся зварот Аб'яднанай грамадзянскай партыі (кіраўнік — Станіслаў Багданкевіч) пра абвяшчэнне Генадзя Карпенкі адзіным кандыдатам ад дэмакратычных сіл на будучых прэзідэнцкіх выбарах. У звароце гаварылася наступнае: «Опыт других стран свидетельствует, что разрозненность и несогласованность действий всегда были одной из основных причин поражения демократических сил на выборах. Поэтому консолидация всех противников режима, выдвижение единой кандидатуры на предстоящих президентских выборах могут привести к победе».

Пазней Карпенка стаў больш арыентавацца на 2001 год, а не на 1999-ты, калі паўнамоцты Лукашэнкі павінны былі скончыцца, бо, як вядома, прэзідэнцкі варыянт Канстытуцыі павялічыў яго тэрмін кіравання на два гады. «Нам необходимо не только противостоять Лукашенко, но и что-то предлагать, когда мы придём к власти», — так Генадзь Дзмітрыевіч запісаў у сваім дзённіку.

Гэтыя надзеі былі перакрэсленыя 6 красавіка 1999 года, калі Карпенка памёр у 49 гадоў пры загадкавых абставінах.

Пра Генадзя Карпенку выйшлі кнігі, артыкулы, успаміны. Аднак некранутым застаецца яго асабісты фонд №1376 у Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь. Выданне дакументаў фонду дапамагло б аднавіць імя, якое на працягу амаль дваццаці гадоў незаслужана выкраслена з беларускай гісторыі.

**Фота з архіву Аляксандра Кур'яновіча**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. Цяжкая дарога да лацінкі

Першыя канкрэтныя крокі па пераходу казахскага алфавіту на лацінскую графіку не абышліся без скандалу. У парламенце Казахстана прадставілі новы алфавіт казахскай мовы. Дэпутаты паслухалі даклад і заявілі, што падтрымліваюць гэты варыянт лацінкі, аднак такая версія не падабаецца лінгвістам. Уся праблема — у пытанні, колькі літар павінна быць у новым алфавіце. Прапанаваны праект заснаваны на прынцыпе «адзін гук — адна літара», а ўсяго такіх гукаў і, адпаведна, літар — 26. Але шмат хто лічыць, што літар у алфавіце павінна быць больш. Пры гэтым, як высвятляецца, крытыкам затыкаюць рот. Усе запрошаныя на слуханні ў парламент спецыялісты-даследчыкі былі супраць прапанаванага варыянту лацінкі, аднак ім папросту не далі слова. Хаця ўлады абяцаюць, што ў парламенце будуць разгледжаны і іншыя варыянты казахскай лацінкі, аглядальнікі ставяцца да гэтага абяцання скептычна. Ходзяць чуткі, што Назарбаеў асабіста ўхваліў гэты варыянт. Мае сэнс нагадаць, што Атацюрк, калі пераводзіў на лацінку турэцкі алфавіт, таксама ігнараваў меркаванне філолагаў, імкнучыся да максімальна прымітыўнай версіі.

**Паводле казахскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. 50 гадоў лепшай камедыі

Палякі адзначылі пяцідзесяцігоддзе выхаду на экраны фільма «Усе свае» («Sami swoi») рэжысёра Сільвестара Хенчынскага. Гэты фільм лічыцца самай лепшай польскай камедыяй усіх часоў. Калі ў 1967-м фільм выйшаў на экраны, поспех быў настолькі значным, што даваліся здымаць яшчэ два эпізоды. «Sami swoi» — гэта фільм пра сялян і іх побыт. У аснове сюжэту палягае канфлікт дзвюх сем'яў — рэпатрыянтаў з усходніх Крэсаў. Сем'і Паўлякаў і Каргулёў — адвечныя ворагі, якія супернічаюць ва ўсім, хаця жывуць побач. Нягледзячы на такую нескладаную інтрыгу, фільм стаў культавым. У Польшчы ёсць музей, прысвечаны фільму. Месцы, дзе здымалася карціна, прыцягваюць турыстаў. Ёсць нават помнікі героям. Нельга не прайсці міма аднаго кур'ёзу: Хенчынскі пасля прызнаваўся, што вырашыў зняць «Sami swoi» паводле вельмі прагматычных матываў. За мяжу сацыялістычнай Польшчы было патрапіць цяжка, але туды выпускалі рэжысёраў карцін на розныя фестывалі. І сапраўды, дзякуючы поспеху «Sami swoi» рэжысёр пабачыў свет. Апошні фільм у трылогіі на грошы польскай дыяспары здымаўся ў ЗША, паездка куды была амаль недасягальнай марай рэзідэнтаў краін Усходняга блоку.

**Паводле польскай прэсы**

### РАСІЯ. Герб на туалетнай паперы




Ганна Данілава, жыхарка Чабаксараў (Чувашыя), набыла ў адной з мясцовых крамаў туалетную паперу. Малюнак на этыкетцы тавару прывёў яе ў ступар: на прадукце былі выяўлены выдуманы персанаж, а на ім — футболка з гербам Чувашскай Рэспублікі. Ганна падняла трывогу, патрабуючы прыцягнуць да адказнасці вытворцу. Аказалася, што туалетную паперу вырабляюць у Падмаскоўі, а вытворца гэтай паперы — родам з Чувашыі. Паводле вытворцы, калі яны запускалі гэты прадукт, то хацелі змясціць на этыкетцы нешта добрае і светлае. Гэтым светлым і добрым стаў герб Чувашыі — малой радзімы, пра якую выключна станоўчыя ўспаміны. Чым скончыцца незвычайная справа, сказаць цяжка. Паводле закону, герб рэспублікі можна размяшчаць на таварах толькі з дазволу геральдычнай камісіі Чувашыі, якая паабяцала прыпыніць вытворчасць незвычайнай паперы.

**Паводле расійскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Спадніца як адзіная школьная форма

Тэма ўніформы для школьнікаў цікавіць не толькі кіраўніцтва Беларусі, але, як высветлілася, і брытанцаў. Тут традыцыйна кожная школа мае свой фасон адзення. Аднак некаторым гэтага мала. Адной з такіх аказалася дырэктар школы ў гарадку Льюіс. Яна запатрабавала ад дзяўчынак хадзіць у школу выключна ў нагавіцах, што выклікала агульнанацыянальныя дэбаты. Шмат хто пабачыў у гэтым замах на прынцыпы гендэрнай роўнасці і прыцісканне жаночай сексуальнасці. Аднак нечакана вельмі моцна заявіла пра сябе фракцыя, якая патрабуе, каб не дзяўчынкі хадзілі ў нагавіцах, а хлопчыкі мелі права хадзіць у спадніцах. На іх думку, гэта дазволіць выпрацаваць павагу да супрацьлеглага полу. Нягледзячы на экзатычнасць дэбатаў, выключаць варыянт таго, што ўсе вучні Брытаніі будуць хадзіць у спадніцах, нельга. Нечакана высветлілася, што ў статутах 120 школ Альбіёну хлопчыкам даецца права хадзіць на заняткі ў спадніцах.

**Паводле брытанскай прэсы**

# Аплявуха нямецкай дэмакратыі

Алег НОВІКАЎ




Фота www.dw.com

**Спакойны ход выбарчай кампаніі ў ФРГ, дзе пераможца ў выглядзе партыі Ангелы Меркель вядомы ўжо зараз, парушыў усплёск папулярнасці правапапулісцкай партыі «Альтэрнатыва для Германіі» (AfD), асабліва на ўсходзе Германіі. Пра яго магчымыя наступствы «Новаму Часу» распавядае нямецкі журналіст Пітэр Бурк.**

***— Ад пачатку выбарчай кампаніі давер да AfD стала скарачаўся. Аднак літаральна за пару апошніх тыдняў рэйтынг партыі ўзняўся з 8 працэнтаў да 12. Што здарылася?***

— Трэба сказаць, што лічбу ў 12 працэнтаў называе толькі адна сацыялагічная каманда. Аднак у прынцыпе ўсе пагаджаюцца, што AfD нечакана зноў пачала выклікаць сімпатыі ў бюргера. Гэта шмат для каго сюрпрыз, паколькі тэма мігрантаў — фішка правых, якая пару гадоў таму моцна хвалявала немцаў, —падавалася, даўно страціла актуальнасць. Уцекачы з Усходу больш-менш адаптуюцца да нямецкіх нормаў. Мяркуюць, што «альтэрнатыўшчыкам» дапамаглі палітыкі вядучых партый. Падчас дэбатаў яны спекулююць на гэтай праблеме, інфармацыйна гуляючы на руку «Альтэрнатывы для Германіі».

Другім фактарам палітолагі лічаць скандальную аўру вакол палітсілы. Супраць кандыдатаў партыі Аляксандра Гаўланда і Аліcы Вейдэль распачаты справы за ксенафобскія і агрэсіўныя выразы і допісы ў інтэрнэце. У некаторых гарадах на ўзроўні муніцыпалітэтаў заклікаюць забараніць знешнюю рэкламу «Альтэрнатывы для Германіі». У часткі грамадства склаўся вобраз AfD як ахвяры рэжыму.

***— Наколькі дапамагла ўздыму папулярнасці «Альтэрнатывы для Германіі» фігура Алісы Вейдэль, якая ўзначальвае выбарчы спіс разам з Гаўландам? На першы погляд, яна цалкам парушае кодэкс правадыра правай партыі: дэкларуе сваю прыналежнасць да сэксуальных меншасцяў, выхоўвае двух дзяцей з партнёркай, якая паходзіць са Шры-Ланкі?***

— Аліса Вейдэль — каларытная фігура. Дасюль ніхто канчаткова не разумее, што прымусіла яе — пасьпяховую бізнес-вумен, пазбаўленую ксенафобскіх забабонаў, падтрымаць партыю, што абапіраецца на людзей, якія ментальна засталіся ў 1945 годзе. Калі меркаваць, зыходзячы з яе інтэрв'ю, занянца палітыкай Алісу Вейдэль прымусіла нязгода з тым, што міграцыйная палітыка Меркель занадта дорага каштуе нямецкаму бюджэту. Праўда, можна паспрачацца, наколькі электарат «Альтэрнатывы для Германіі» сочыць за тым, што робіць і кажа фраў Вейдэль. Яе асабісты рэйтынг значна меншы за рэйтынг партыі. Галасаванне за «Альтэрнатыву для Германіі» мае больш пратэстны характар.

***— Ці будзе праходжанне AfD у Бундэстаг выглядаць як нейкі выклік дэмакратыі?***

— Хутчэй, не выклік, а сапраўдная аплявуха. Праект «ФРГ» будуецца на адмаўленні нацысцкай спадчыны. Пасля забароны выразна нацыяналістычнай Імперскай сацыяльнай партыі нацысты ніколі не мелі дэпутатаў у парламенце ФРГ. А зараз «Альтэрнатыва для Германіі» мае шанец не толькі правравацца ў Бундэстаг, але і ўвогуле атрымаць там трэцюю па колькасці дэпутатаў фракцыю. Прагрэсіўныя немцы шакаваныя тым, што ў грамадстве так шмат людзей, гатовых галасаваць за антыдэмакратычную па сваёй прыродзе партыю і палітыкаў з такім бэкграундам. Практычна штодня высвятляецца, што той або іншы з кандыдатаў у спісе «Альтэрнатывы для Германіі» пачынаў свой шлях у палітыку як сябра нейкай праварадыкальнай групоўкі. Той жа Гаўланд адкрыта заклікае перагледзець палітыку гістарычнай памяці: пачаць шанаваць жаўнераў Вермахту і менш узгадваць пра Халакост.

***— А ці не перабольшаныя перасцярогі наконт наступстваў прыходу AfD у Бундэстаг? Сыходзячы з выбарчай праграмы «Альтэрнатывы для Германіі», не мэтай з'яўляецца не рэстаўрацыя Трэцяга Рэйху, а вяртанне нямецкай маркі і перагляд Маастрыхту. Акрамя таго, наўрад ці партыя атрымае міністэрскія партфелі ў складзе новага ўраду Меркель...***

— Відавочна, што «Альтэрнатыва для Германіі» не будзе ўплываць на курс кабінета. Аднак яе прысутнасць у парламенце пагражае правілам і нормам, паводле якіх працуе дэмакратыя. Паколькі рэйтынг AfD будуецца на скандалах, яе дэпутаты пачнуць свядома ісці на канфрантацыі з апанентамі, што можа заблакаваць працу камітэтаў. Дэбаты ў парламенце, дзякуючы «Альтэрнатыве для Германіі», набудуць прысмак неканструктыўнага папулізму. Нарэшце, правыя папулісты, маючы фракцыю ў парламенце, атрымаюць доступ да дзяржаўных фондаў, што ўзмоцніць іх агітацыю на месцах.

***— Наколькі можна верыць артыкулам пра тое, што за «Альтэрнатывай для Германіі» стаяць грошы Масквы?***

— Ніякіх дакладных фактаў фінансавай падтрымкі з боку Расіі не вядома, аднак так званыя «рускія немцы», якія ў большасці ўхваляюць геапалітычны курс Крамля, сапраўды, вельмі часта сімпатызуюць правым папулістам. Акрамя таго, у нямецкіх рускамоўных СМІ шмат публікацый у падтрымку AfD.

***— Ці можна прыпыніць наступ «Альтэрнатывы для Германіі»?***

— На думку палітолагаў, скасаванне формулы «вялікая кааліцыя» (урадавы блок хрысціянскіх дэмакратаў і сацыял-дэмакратаў, якія разам фармавалі ўрад з 2005 года) аўтаматам пахавае AfD. У такім выпадку функцыю апазіцыі возьмуць на сябе эсдэкі. Яны сапраўды гэтым разам у кабінет ісці не жадаюць, аднак ніхто не ведае, што атрымаецца. Альтэрнатыва фармату «вялікай кааліцыі» — так званая кааліцыя «Ямайка» (саюз кансерватараў, лібералаў і «Зялёных», камбінацыя партыйных колераў якіх нагадвае сцяг Ямайкі — зялёна-чорна-жоўты). Але з «Ямайкай» таксама не ўсё зразумела праз тое, што «Зялёныя» баяцца паўтарыць досвед сацыял-дэмакратаў, якія ў кабінетах Меркель былі на другіх ролях і перасталі ўспрымацца як нейкая сур'ёзная партыя. Яшчэ не факт і тое, што сацыял-дэмакраты могуць перахапіць у AfD статус апазіцыі. На цяперашні момант спыніць «Альтэрнатыву для Германіі» здольны толькі канфлікт унутры арганізацыі. І падставы для такога сцэнару сапраўды існуюць.




Фота www.dainikpurbokone.net

# Як утрымаць каталонцаў?

Алег НОВІКАЎ

**Чым бліжэй прызначаны на 1 кастрычніка рэферэндум аб незалежнасці Каталоніі, тым больш актыўна Мадрыд намагаецца сарваць галасаванне. Выкарыстоўваюцца вельмі цікавыя прыёмы.**

Тры гады таму, у лістападзе 2014-га, каталонцы ўжо ўдзельнічалі ў плебісцыце аб незалежнасці, які, праўда, меў кансультатыўны характар. Тады больш за 80 працэнтаў тых, хто галасаваў, падтрымалі праект незалежнай каталонскай дзяржавы. Беручы пад увагу статыстыку 2014-га, шанцы Мадрыду на тое, што каталонцы цяпер прагаласуюць супраць, выглядаюць ілюзорнымі.

Аднак не ўсё так прадказальна. Прычына не ў тым, што Канстытуцыйны трыбунал Іспаніі абвясціў рэферэндум неправавой акцыяй, ініцыятары і арганізатары якой могуць быць прыцягнутыя да адказнасці. І не ў тым, што супраць незалежнікаў пачалася медыйная вайна з абавязковым злівам кампрамату на апанентаў і пагрозамі забраць у каталонцаў усе фінансавыя датацыі.

У Мадрыдзе прыдумалі цікавую схему, як утрымаць каталонцаў у складзе Іспаніі. Паводле яе аўтараў, цалкам зрываць рэферэндум няма патрэбы. Задача цэнтру — зрабіць так, каб плебісцыт не адпавядаў крытэрам правядзення ўсенароднага вольнага апытання. Калі будуць лакальна парушаныя базавыя працэдуры правядзення рэферэндуму, дык можна будзе аспрэчваць агульны вынік. Таму, нават калі большасць каталонцаў прагаласуе за суверэнітэт, паўстануць пытанні наконт легітымнасці мерапрыемства.

А гэта значыць, што пасля 1 кастрычніка не будзе аўтаматычна запушчаны адпаведны закон аб пераходным перыядзе, падчас якога Каталонія павінна атрымаць усе атрыбуты незалежнай дзяржавы.

Ужо зараз відавочна, як будуць намагацца рэалізаваць згаданую схему. За кошт фінансавых устаноў і пракуратуры вядзецца ціск на ўсе фірмы, якія павінны забяспечыць рэферэндум неабходнымі для правядзення матэрыяламі — афішамі, бюлетэнямі, скрынямі для галасавання і гэтак далей. Першыя канфіскацыі выбарчай прадукцыі ўжо мелі месца.

Зрыў лагістыкі падрыхтоўкі рэферэндуму перайшоў у новую фазу 19 верасня, калі аддавая цэнтру сілавікі арыштавалі групу функцыянераў з «La Generalitat» — ураду каталонскай аўтаноміі. З улікам таго, што адначасова ў Мадрыдзе пачалі гаварыць пра новую рэдакцыю пункта канстытуцыі, які тычыцца правоў каталонскай аўтаноміі, у Барселоне заявілі пра замах на свой суверэнітэт. Лідары незалежнікаў заклікалі да мабілізацыі і вулічных акцый пратэсту, кульмінацыя якіх чакаецца ў бліжэйшую нядзелю. Хутчэй за ўсё, тады ж будзе вызначаны і фармат мерапрыемстваў 1 кастрычніка. Тэма правядзення рэферэндуму да гэтага часу не здымаецца з парадку дня, хаця раніцай 21 верасня адзін з лідараў сепаратыстаў прызнаў, што канфіскацыі выбарчых матэрыялаў стварылі сур'ёзныя праблемы.

Такім чынам, 1 кастрычніка на некаторых выбарчых участках, хутчэй за ўсё, выбарцы прагаласаваць не змогуць. Кепскую справу незалежнікам могуць зрабіць і занадта фанатычныя прыхільнікі суверэнітэту, якія паспрабуюць арганізаваць галасаванне без выканання фармальных патрабаванняў.

Яшчэ адно ноў-хаў Мадрыда — наяўнасць у Каталоніі каля сотні муніцыпалітэтаў, кіраўніцтва якіх адмаўляецца праводзіць рэферэндум. Гэта камуны, дзе пры ўладзе знаходзяцца сябры кансерватыўнай Народнай партыі, партыі «Грамадзяне» або сацыялістаў. На фоне 700 муніцыпалітэтаў, якія дакладна правядуць рэферэндум, гэта, напэўна, няшмат. Тым не менш, Мадрыд зможа казаць, што галасаванне не было ўсеагульным.

Такая тактыка Мадрыду прымусіла незалежнікаў нервавацца. Інакш бы на старонках цэнтральнай прэсы не прагназавалі хуткую капітуляцыю Барселоны. Там спадзяюцца, што прыкладна за тыдзень да 1 кастрычніка каталонцы зразумеюць, што рэферэндум дакладна не будзе паўнавартасным. У такой сітуацыі ім застаецца толькі імітаваць усенароднае апытанне або шчыра прызнацца: свята незалежнасці пераносіцца на нявызначаны тэрмін.

Але на старонках тых жа цэнтральных СМІ не выключаюць і сцэнар, калі 1 кастрычніка народ Каталоніі масава выйдзе на вуліцы і запатрабуе ад каталонскіх уладаў пачаць будаўніцтва незалежнай краіны — тут і зараз, не чакаючы аналізаў юрыстаў. Беручы пад увагу тое, што каталонскія сілавікі ўжо некалькі разоў ігнаравалі інструкцыі Мадрыду, выступ, напэўна, будзе агульнанародным. Цікава, што 8 верасня Барселона заклікала Мадрыд устрымацца ад нейкіх аналагаў АТА на каталонскай тэрыторыі.

Марыя Ішчанка — украінка, якая жыве ў Жыроне, адным з гарадоў каталонскай аўтаноміі, падзялілася з «Новым Часам» прагнозамі наконт рашэння каталонскага пытання.

— Тое, што робіць цэнтральны ўрад, пакуль, як правіла, выклікае негатыўную рэакцыю нават сярод апанентаў ідэі незалежнасці. На іх думку, урад фактычна адмаўляе грамадзянам у праве вырашаць свой лёс. Таму, мяркую, сарваць плебісцыт усё роўна не атрымаецца. 1 кастрычніка каталонцы паспрабуюць засведчыць, што менавіта яны, а не Мадрыд, адказныя за свой край. Пра гэта сведчыць і нядаўні ўчынак мэра Барселоны Ады Калаў (Ada Colau), якая падтрымала правядзенне рэферэндуму, хаця спачатку, не будучы нацыяналісткай, асцярожна ставілася да гэтай ініцыятывы. А вось якія будуць наступствы галасавання — прадказаць цяжка. Большасць маіх суразмоўцаў лічаць, што пачнуцца перамовы з цэнтральным урадам.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Рэй Тылерсан

Дзяржаўны сакратар ЗША не выключыў, што Злучаныя Штаты хутка закрыюць сваё пасольства на Кубе. Заява цікавая не тым, што адносіны паміж Гаванай і Вашынгтонам зноў нагадваюць часы «халоднай вайны». Гэтай заяве папярэднічала амаль містычная гісторыя.

Улетку 21 супрацоўнік пасольства паскардзіўся на праблемы са здароўем. Асноўнымі сімптомамі сталі млоснасць, галаўны боль і страта слыху. Пры гэтым пацярпелыя адзначалі, што па начах чулі дзіўныя гукі, якія нагадваюць скрыгат металу. Гэтая інфармацыя дала падставу казаць пра прымяненне да дыпламатаў невядомай аўдыёзброі.

Аднак ніякіх доказаў віны Кубы не знойдзена. Ва ўрадзе Рауля Кастра, вядома, ёсць групоўка праціўнікаў нармалізацыі адносін з ЗША, але наўрад ці тыя людзі маюць такія тэхналагічна складаныя прылады. Сапсаваць жыццё амерыканскаму дыпламатычнаму корпусу можна значна прасцейшымі метадамі. Дапускаецца, што кубінцы праслухоўвалі амерыканцаў, але з-за слабай прафесійнай кваліфікацыі націснулі не на тую кнопку. Аднак падобная апаратура грунтуецца якраз на прынцыпе слабасці сігналу, інакш «жучок» лёгка выявіць.

Адным словам, гісторыя вельмі цёмная, аднак яна можа мець самыя непрадказальныя палітычныя наступствы.



### Сяргей Мітрохін

Кіраўнік маскоўскай секцыі расійскай ліберальнай партыі «Яблоко» і яго аднапартыйцы могуць праспаць унікальныя перспектывы, якія адчыняюцца перад апазіцыяй пасля поспеху на муніцыпальных выбарах у Маскве, дзе партыя атрымала 176 мандатаў.

Замест таго, каб развіць прарыў і будаваць адзіны фронт, лідары «Яблока» пачалі спрачацца за скуру незабітага мядзведзя. Паміж Сяргеем Мітрохіным і Дзмітрыем Гучковым — іншым лідарам «Яблока», — пачалася спрэчка наконт таго, хто павінен прадстаўляць апазіцыю на выбарах мэра Масквы ў наступную восень. Паколькі каардынатарам выбарчай кампаніі ў Маскве быў Гудкоў, аўтаматычна лічылася, што яму і трэба балатавацца ў мэры. Аднак тут жа высветлілася, што прыкладна паўтара гады таму маскоўскі філіял «Яблока» ўжо высунуў кандыдатам на пасаду мэра Мітрохіна. Апошні адмаўляцца ад кандыдацтва не збіраецца.

Пакуль канфлікт унутры «Яблока» нарастае. Тым часам, на думку прэсы, тое, што зараз адбываецца ў расійскім дэмакратычным лагеры, можна назваць тэстам цяперашніх расійскіх дэмакратаў на адэкватнасць. Калі маскоўскія дэмакраты страцяць шанс зарэкамендаваць сябе добрымі адміністратарамі, у Расію зноў вернецца час дамінавання сістэмы праўладных партый.



### Джымі Акесан

Лідар правакансерватыўнай партыі «Шведскія дэмакраты» (SD) святкуе перамогу — яго структура выйграла вельмі важную бітву ў культурнай вайне, калі 17 верасня атрымала 9,2 працэнта на выбарах у органы кіравання Шведскай царквы (Svenska kyrkan).

Шведская царква — гэта былая дзяржаўная, а цяпер незалежная царква лютэранскага абраду. Больш за 65 працэнтаў шведаў лічаць сябе яе вернікамі, што дазваляе казаць пра вялікі аўтарытэт арганізацыі. Аўтарытэт таксама трымаецца на тым, што кіраўніцтва царквы абіраюць вернікі. Традыцыйна большасць галасоў атрымлівалі біскупы, блізкія да сацыял-дэмакратаў. Таму, як правіла, царква каментавала падзеі ў краіне з сацыял-дэмакратычных пазіцый, і ў тым ліку актыўна дапамагала мігрантам.

Цяпер у гісторыі Шведскай царквы, падаецца, пачынаецца новыя часы. Квота, якую атрымалі правыя радыкалы, дазволіць ім уплываць на стаўленне Svenska kyrkan да грамадска-палітычных працэсаў. Джымі Акесан і яго прыхільнікі не хаваюць, што разглядаюць царкву як важны інструмент для стварэння новай шведскай ідэнтычнасці. Адна з прапаноў SD заключаецца ў тым, каб пертварыць памяшканні царквы ў раёнах, дзе шмат мігрантаў-мусульман, у цэнтры абароны хрысціян.

# Заходнікі і ўсходнікі

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

« Працяг. Пачатак у №34

**Па Заходняй Беларусі катком прайшлося нямала людзей са зброяй. Першыя Саветы з дэпартацыямі, другія — з прымусовай калектывізацыяй, паміж імі — акупацыя з партызаншчынай.**

Новая ўлада не спала ў шапку: склала спісы падпанкаў, асаднікаў, святароў, леснікоў, паштароў. Памешчыкі аператыўна з'ехалі на Захад. Пасля масавай высылкі тысяч асаднікаў у Сібір і Казахстан (сем'і адпраўляліся асобна) на тэрыторыі былой Заходняй Беларусі заставаліся аднаасобнікі, уладальнікі хутарскіх гаспадарак. Ім яшчэ належала перажыць вайну і пасляваенную калектывізацыю. А вайна з Германіяй наспявала, як навальніца ў спякоту.

Распавядае Соф'я Капуцкая, жыхарка Маладзечна:

«Жылі мы за кіламетраў 15 ад Крывічоў, недалёка ад Плешчаніцаў. Наш хутар называўся Сцешыцы. Перамены ўлады мы спачатку не заўважылі. Радаваліся ў асноўным беднякі і п'яніцы. Мы як рабілі, так і рабілі. Спраў хапала для ўсіх: курaнят карміць, яйкі збіраць, гусей ганяць... А яшчэ ж карова, авечкі... Дзеці гэтак не лёталі, як цяпер, не ведаючы куды сябе падзець. Зранку як падымешся — цэлы дзень на нагах. З шасці-сямі гадоў дзяўчынкі пачыналі ткаць. Для мяне бацька заказаў маленькі сярпок, з ім і замуж пайшла. Пакуль навучылася, не раз рэзала пальцы. Мы наймалі ўлетку па восем работнікаў, у асноўным з Плешчаніцкага раёна. Людзі прасіліся, каб і на наступны год у нас працаваць. У жніво і на копцы бульбы дапамагалі сваякі»...




Савецкі плакат 1939 года

## Вайна і немцы

За няпоўныя два гады Заходнюю Беларусь запоўнілі настаўнікі, медыкі і спецыялісты розных галін гаспадаркі з усходніх абласцей. У першыя дні пасля нападу гітлераўцаў яны далучыліся да чырвонаармейцаў з трох армій Заходняй акругі, і ўся гэтая навала пакацілася на ўсход.

Што акружэнцы, што бежанцы — усе заходзілі ў двары ў надзеі раздабыць штосьці з ежы. Узброеныя не надта цырымоніліся з «буржуінамі» ды «кулакамі». Цывільныя выдумлялі пра сябе хто што мог, многія казалі, быццам іх выпусцілі з турмы. Але цёртага жыццём заходнебеларускага селяніна падмануць было складана.

Дзяўчыну з вёскі Качай-Балота (Гомельская вобласць) Насцю Макаранка (Кзяткоўскую) пасля медтэхнікума накіравалі ў Рось. Ездзіла на брычцы-«фаэтоне» па школах, рабіла прышчэпкі. Людзі яе любілі і звярталіся паважліва: «Пані доктарка».

Першыя бомбы ўпалі зусім блізка — немцы ўшчэнт разбілі ваенны аэрадром. Адтуль, як развіднела, папаўзлі салдацікі — хто без рукі, хто без нагі, хто з разарваным жыватом. Разам з акушэркай Таняй на пяці конных упражках павезлі раненых на ўсход. А па іх пачалі страляць з лесу. Паранены папрасіў медсястру: «Здымі мяне, ратуйся сама», — і папоўз паміраць у жыта. «Ён і цяпер там», — нязменна дадавала бабуля, апавядаючы гісторыю дачцэ.

Далей яны ўліліся ў нясканчоны паток бежанцаў.

З лагера цывільных у Слоніме ўдалося збегчы: худзенькая Насця адарвала дошку ў прыбіральні, выпаўза сама і вывалакала сяброўку. Папрасіліся заначаваць на саломе ў чужым гумне, але гаспадар лёгка распазнаў камсамолак і выдаў. Чуе дзяўчына пад раніцу: таракцяць маторы. Закапалася сама і прысыпала спячую Таню. Немцы пачалі пароць салому штыхамі, але без выніку. Гаспадар разгубіўся: «Тылькі тутай былі! Юш збеглі!»

Адсядзеліся — і бегма адтуль. Заскочылі ў яшчэ адзін двор, папрасілі вады. «Напаю я вас зараз», — прыгразіў мужык, наставіўшы вілы. Доўга ішлі разам, пакуль не развіталіся: Таня падалася ў Расію, а Насця на поўдзень, у бок Парычаў.

Емяльян Дораш прасіць умеў. Яшчэ дзіцем у Першую сусветную з сястрой, прасячы міласціну, прайшоў ад Навагрудка да Беластока. Хіба ён думаў, што некалі трапіць туды на тэрміновую службу? Пастрыгчы навабранцаў паспелі, а вось да прысягі справа не дайшла. Камандзір распарадзіўся мудра: разам вы прападзяце, прабірайцеся малымі групамі. І адпусціў па дамах.

Ішлі паралельнымі дарогамі, лясным сцежкамі. На хутарах пілі выстаўленае для зборшчыкаў малако, ды не ва ўсіх страўніку пераносілі такую ежу. Місію здабытчыка ўзяў на сябе Емяльян. Ён заходзіў у хату, паважліва кланяўся гаспадарам, хрысціўся і маліўся на абраз у куце. Яго кармілі і давалі трохі з сабою, так што ежы хапала паплечнікам.



Англійская карыкатура «Мядовы месяц» 1939 года

З вялікай удзячнасцю піша пра жыхароў на захадзе Беларусі былы ваеннапалонны, партызан атрада «Дзімы» на Лагойшчыне Юрый Волкаў:

«Людей более гостеприимных, чем на Западной Белоруссии, я до этого не встречал. Хотя и были всевозможные наказы новой немецкой власти: «не пускать ночевать», «не кормить», «за ослушание — расстрел», население продолжало и кормить и укрывать многочисленных «бродяг», бежавших из плена, о чём мне рассказывали буквально в каждой хате. Сколько нашего брата шаталось тогда по Белоруссии — сказать трудно. Многие мои товарищи по «партизанке» прошли этот курс бродяжничания в той или иной степени. И ни я, ни они не могли вспомнить случая, чтобы кто-либо или когда-нибудь отказал приходящим в еде. Всех она выкормила, выходила, часто вылечила; случаи выдачи пленных немцам или полиции были крайне редки». (Волкаў Юрый Сяргеевіч, «Война без прикрас и героических подвигов», 1985–1999, Ленинград)

Не ўсім так шанцавала. Дасюль кепскай думкі пра заходнікаў мая суседка па доме баба Шура. Як толькі немца выбілі з-пад рэчкі Проні і пагналі, вярнуліся дзевяць Зюлікавых у сваю хату. А есці, акрамя травы, няма чаго. «Будзем паміраць», — падумала да ўсяго прызвычаеная маці. Але выправіла дзвюх дачок, 28-га і 32-га года нараджэння, за станцыю Негарэлае на заробкі.

Абышлі сёстры вёскі Нясвіжскага, Стаўбцоўскага раёнаў — ніхто на працу не бярэ, зерне не гатовае. А есці ж хочацца. Тады малодшая Аляксандра асмелілася прасіць. Абышла ўсё сяло з працягнутай рукой, і ніхто ў яе далоньку нічога не паклаў. Не прынята там даваць «за так». Тады, кажа, я набрала з карыта бульбы, зваранай для свіней, і мы наеліся.

Бог усё ж вырашыў злітавацца і паслаў папрашайкам працу: рваць лён за ежу. На другой сядзібе жалі паспеўшае жыта. На трэцяй таксама спатрэбіліся іх рукі. Так пашчасціла зарабіць. Мелі на дарогу шэсць боханаў хлеба, два мяшэчкі зерня і нават скрутак здору.

На цягніку праўдамі і няпраўдамі дабраліся да Мінска. У горадзе Шура пару хлябоў прадала, купіла сабе і сястры па сукенцы ў гарошак. У вагоне-цялятніку, дзякуючы добраму салдаціку, давезлі заробленае ў свой Дрыбінскі раён. Маці плакала ад радасці.

## Партызанская «харчразвёрстка»

Падручнікам па жыцці заходніх беларусаў стала для мяне кніга Міхася Конана «Юргінія». Аўтар, як і я, апытваў старых людзей, да таго ж шмат матэрыялу дала яму гісторыя ўласнай сям'і. Возьмем такі эпізод. У сялянскую хату заходзяць узброеныя людзі, звяртаюцца да гаспадара. «Мы з Бягомльскай партызанскай зоны. Ведаем, што ў цябе ёсць конь. На фашыстаў пешшу ж не пойдзеш». Калі не дзейнічала простая логіка, падпускалі ідэйнасці. «Можа, ты хочаш, каб немцы на нашай зямлі былі вечна?»

Забіраючы каня, угледзелі карову з падцёлкам: «Так, карову да нас завядзеш сам». Што адчувае ў такіх выпадках гаспадар? «Сэрца білася так цяжка, быццам ён без перадыху цэлы загон папару перааараў. А тут яшчэ Усця са сваімі кленічамі на партызан.(...) Як жа мы будзем жыць, Лявонка? Хто нам дапаможа?»

Партызанаў жанчыны сапраўды клялі, зняважліва звалі іх «кароўнікамі» і «падушачнікамі». Каму ж спадабаецца, што дзеці ядуць траву? Было, што нанач адводзілі кароў да бліжэйшых нямецкіх гарнізонаў, дзе яны будуць цалейшымі.

Нямецкі гарнізон стаяў крыху воддаль ад вёскі Караватка, жыхары з суседніх вёсак прыводзілі туды сваю жывёлу. Дык партызаны, не зачапіўшы сам гарнізон, абчысцілі вёску і пазабіралі ўсіх кароў. Паспяховы атрымаўся рэйд! Што яны напісалі ў справаздачы?

Пры арганізацыі калгаса прыезджы старшыня прапанаваў назваць гаспадарку «Чырвоны партызан». З месца выгукнулі: «Чырвоны каравятнік!»

Вось як піша пра начныя візіты Рычард Жураўскі, ураджэнец хутара Янаўшчына Маладзечанскага раёна: «Я чуў, як трывожна шапталіся дарослыя, раз-пораз гучала слова «немцы». Гаспадарка яшчэ была моцная, па двары, як і раней, хадзілі гусі ды куры. Праз некаторы час пачало ўсё па чарзе знікаць. (...) Бо па начах з'яўляліся «госці», і пасля кожнага візіту нешта з худобы прападала. Гэта былі ўзброеныя людзі ў цывільнай вопратцы. Пашпартоў не прад'яўлялі, настаўлялі зброю і камандавалі: «Давай!» Аднойчы забралі авечак. Неўзабаве не стала свіней. Крыху пазней са двара вывелі нашых коней. Пад канец вайны наш дзед стаў поўным «пралетарыем».

Працяг будзе



Сяргей ЧЫГРЫН

# Святар, які прайшоў праз Салаўкі і Сібір

**Паводле нацыянальнасці ён быў латышом, але моцна любіў Беларусь, беларусаў і выдатна размаўляў на мове нашага народа. Святар, які прайшоў праз шматлікія лагеры, але застаўся моцны ў веры, — Баляслаў Слосканс.**

Рыма-каталіцкі святар, біскуп, апостальскі адміністратар Мінскі і Магілёўскі, беларускі і латышскі рэлігійны і грамадскі дзеяч Баляслаў Слосканс нарадзіўся ў былой Віцебскай губерні ў Стэрнянах пад Рэжыцай (цяпер гэта Латвія) у каталіцкай сям'і Бярнарда і Цыцыліі Слоскансаў. Навучаўся ў каталіцкай духоўнай акадэміі ў Петраградзе. Працаваў душпастырам у Петраградзе, Маскве і ў Віцебску.

У маі 1926 года Баляслава Слосканса прызначылі на пасаду апостальскага адміністратара мінскага і магілёўскага. У сваіх выступах ён імкнуўся выкарыстоўваць і беларускую, і польскую мовы. Каб растлумачыць стаўленне да моўнай палітыкі, ён аднойчы падчас наведвання Гомельскай парафіі звярнуўся да прысутнай у касцёле інтэлігенцыі па-польску: «Казанне мае на мэце выясніць усім вернікам, без розніцы ступені іхняе асветы, найважнейшую справу іхняга жыцця, справу збаўлення душы. Дык гаварыць аб гэтым у такой мове, якой добра не разумеюць шырокія масы, было б дарэмнаю гаворкаю, а казаць два казанні ў розных мовах я не маю часу. Дзеля гэтага прашу інтэлігенцыю прыстасавацца да мовы шырокіх кругоў вернікаў і выслухаць казанне ў беларускай мове».

За сваю актыўную дзейнасць на пасадзе апостальскага адміністратара Баляслаў Слосканс у верасні 1927 года быў арыштаваны і высланы ў Салавецкія лагеры. Смяротнасць у лагерах сярод зняволеных была тады даволі вялікая. У 1929 годзе на востраве Анзэр з 1000 зняволеных памерла 700. Здароўе і ўладыкі Баляслава ў 1930 годзе было вельмі падарваным ад працы і холаду. Але ён выжыў і адбыў тэрмін зняволення, які яму прысудзілі.

17 верасня 1930 года ў яго скончыліся тры гады зняволення. 13 кастрычніка ўладыку Баляслава паклікалі ў канцылярыю лагера і сказалі збірацца «з рэчамі» на ад'езд. І ён пачаў рознымі шляхамі і транспартам дабірацца да Ленінграда. Прыехаўшы ў горад на Няве, Баляслаў Слосканс вырашыў наведаць біскупа Малецкага. Але той так спалохаўся яго візіту, што ўладыка Баляслаў вырашыў больш нікога не турбаваць і паехаў на Магілёў, каб зноў працягваць душпастырскую працу сярод сваіх вернікаў.

У Магілёве Слоскансу неабходна было спачатку атрымаць дакументы на прыпіску, таму ён пайшоў у ДПУ. Там яго сустрэлі са здзіўленнем. Маўляў, сёння дакументы на прыпіску не так проста дастаць, бо цяпер уладыка Слосканс з'яўляецца для ўсіх каталіцкай контррэвалюцыянерам. Супрацоўнікі ГПУ прапанавалі яму пакінуць Магілёў і паехаць у Смаленск. Але Баляслаў Слосканс адмовіўся: «Не, я хачу застацца ў Магілёве, а калі я тут такі непажаданы госць, дык можа вы зноў мяне арыштуеце і вышлеце куды вам падабаецца?..» Здзіўленыя дэпэушнікі адказалі: «Гм, калі так, дык пачакайце крыху...»

І доўга чакаць не давялося. Праз дзесяць дзён пасля прыезду Баляслава Слосканса ў Магілёў, яго зноў арыштавалі і выслалі ў Сібір.

Падарожжа на высылку прыйшлося адбываць этапамі. У сакавіку 1931 года ён прыбыў у Енісейск. Адтуль праз два месяцы яго перавялі ў Стара-Юруханск, а на новы 1932 год — у Краснаярск. Там Баляслаў Слосканс мусіў сам знаходзіць сабе працу і харчаванне. Але ратавала рыбалоўства. Праз год Слоскансу паведамілі, што яго пераводзяць у Маскву.

Праз тыдзень знаходжання ў маскоўскай турме, 20 студзеня 1933 года біскупа выклікалі ў суд, дзе яго чакаў пасол латвійскага ўраду, які паведаміў яму, што, дзякуючы латвійскаму ўраду і апостальскаму пасаду, савецкі ўрад пагадзіўся яго выменяць на аднаго камуніста, і дзеля гэтага ўжо заўтра можна выехаць у Рыгу.

Гэтую прапанову ўладыка Слосканс пагадзіўся прыняць не адразу, кажучы, што яго абавязак — берагчы даручаную яму паству, бо вернікі ведаюць, што архіпастыр іх не пакіне і за іх сёння церпіць і моліцца. На гэта пасол адказаў, што, калі ёсць такая магчымасць адсюль выратавацца, то яе трэба хутка выкарыстаць. Баляслаў Слосканс паслухаў пасла — і праз некалькі дзён ён быў ужо ў Рызе. А з Рыгі праз пэўны час яго віталі ў Рыме. Там ён прабыў некалькі месяцаў. А потым паехаў у вандроўку па Еўропе, сустракаючыся з вернікамі, і вярнуўся ў Рыгу, дзе працаваў у семінарыі і ва ўніверсітэце.

**За сваю актыўную дзейнасць на пасадзе апостальскага адміністратара Баляслаў Слосканс у верасні 1927 года быў арыштаваны і высланы ў Салавецкія лагеры. У 1929 годзе на востраве Анзэр з 1000 зняволеных памерла 700**

Падчас Другой сусветнай вайны гітлераўскія ўлады пастаянна перашкаджалі ўладыку Слоскансу выконваць яго архіпастырскія абавязкі на Беларусі. А ў 1944 годзе нямецкае гестапа вывезла яго ў Германію ў лагер для ваеннапалонных Шнайдэмюле, адкуль яго, дзякуючы нямецкім епіскапам, вызвалілі.



Баляслаў Слосканс у вандроўцы па Еўропе пасля сталінскіх лагераў

Пасля вызвалення Слосканс жыў у горадзе Айхштэт у Баварыі, а затым у манастыры капуцынаў у Лор-на-Майне. Там святар знаходзіўся да 1947 года. Пасля беларусы-вернікі запрасілі яго ў Бельгію. Адтуль апостальскі пасад камандзіраваў святара візітаваць беларускія асяродкі ў Францыі, Бельгіі і Германіі. Дарэчы, варта дадаць, што Баляслаў Слосканс паважна спрычыніўся сваім заступніцтвам і да арганізацыі беларускага цэнтру ў Лювене (Бельгія).

Афіцыйна біскуп Баляслаў Слосканс быў апостальскім візітатарам для беларускіх грэка-каталікаў з 19 снежня 1952 года, а з 14 лютага 1953 года — і адказным за душпастырства для беларусаў лацінскага абраду ў Заходняй Еўропе. Але ўжо ў папярэднія гады ён наведваў і падтрымліваў духоўна многіх беларусаў-эмігрантаў і асабліва дапамагаў беларускім студэнтам, якія вучыліся ў каталіцкім універсітэце ў Лювене. Ён шчыра быў зацікаўлены духоўным і культурным развіццём сярод беларусаў на Захадзе, асабліва маладых студэнтаў і інтэлектуалаў.

Для духоўнага і культурнага жыцця беларусаў на Захадзе вельмі важнай была таксама падтрымка, якую біскуп Баляслаў аказваў вядомаму беларускаму музыку Міколу Равенскаму — аўтару музыкі беларускага рэлігійнага гімна «Магутны Божа».

Актыўны ўдзел біскупа Баляслава Слосканса ў духоўным і культурным жыцці беларусаў замежжа вызначаўся і ў матэрыяльнай, і ў маральнай дапамозе, якую ён надаваў беларускім каталіцкім часопісам «Žnič» («Зніч»), што выдаваўся ў Рыме Пятром Татарыновічам, і «Божым шляхам», які выдаваўся ў Парыжы Львом Гарошкам. Адным словам, фінансаваў гэтыя выданні і матэрыяльна дапамагаў кампазітару Міколу Равенскаму.

Вялікая заслуга біскупа Баляслава Слосканса для душпастырскіх патрэбаў беларусаў на эміграцыі была і ў тым, што ён, як апостальскі візітатар для беларусаў замежжа, падтрымаў ліст, які беларускія святары напрыканцы іх агульнай сустрэчы ў Рыме прадставілі Папе Яну XXIII 6 лютага 1960 года. У лісце была просьба прызначыць для беларускіх католікаў уласнага біскупа. Ліст-мемарыял быў падпісаны біскупам Баляславам Слоскансам і беларускімі святарамі, якія займаліся душпастырскай апекай беларускіх эмігрантаў абодвух абрадаў у Заходняй Еўропе. І сапраўды, 2 ліпеня 1960 года Папа Ян XXIII намінаваў айца Чэслава Сіповіча — рэктара беларускай місіі ў Лондане, першым беларускім біскупам ад часу знішчэння ў 1839 годзе царскімі ўладамі Расійскай імперыі структур уніяцкай грэка-каталіцкай царквы.

Абодва іерархі засталіся ў глыбокай сяброўскай прыязні аж да смерці. Абодва і памерлі ў адзін год: біскуп Баляслаў Слосканс — 18 красавіка 1981 года, біскуп Чэслаў Сіповіч — 4 кастрычніка 1981 года. Іх асабістае сяброўства было таксама важным знакам сяброўства народаў латышскага і беларускага.

У канцы 2004 года біскуп Баляслаў Слосканс афіцыйна быў абвешчаны вызнаўцам веры. А ў 2013 годзе адна з вуліц Рыгі пачала насіць яго імя.

**Фота з архіву Сяргея Чыгрына**



У Ватыкане. Баляслаў Слосканс (крайні справа), крайні злева Чэслаў Сіповіч

# Старадаўняя Беларусь — калыска кнігадрукавання і пісьменства ва Усходняй Еўропе



**Па гарызанталі:** 1. Верасень красна лета праважае, … залатую сустракае (прыказка). 5. … Фёдараў (Хведаровіч). Імя кнігавыдаўца, асветніка XVI стагоддзя; лічыцца, што ён нарадзіўся на Беларусі і паходзіць з беларускага шляхецкага роду Рагозаў. 7. «…, пакрытую няжорсткай бурай кожай,\\ Я ўзяў і срэбныя засцёжкі адамкнуў». З верша Максіма Багдановіча «Кніга». 8. Старажытнае «вечнае пяро». 10. Цэнтр якой-небудзь дзейнасці (пераноснае). 12. «Загнанае … ты, роднае … !\\ Грымні ж над радзімай зямлёй». З верша Янкі Купалы «Роднае слова». 15. Бланк для запаўнення якімі-небудзь звесткамі. 16. Імя каралевы Францыі, унучкі полацкай княгіні Рагнеды, якая адна ва ўсім каралеўскім двары была пісьменнай. 17. Сымон … Беларускі мысляр-гуманіст, гісторык, паэт, філосаф XVI стагоддзя, прадаўжальнік культурна-асветніцкай, нацыянальна-патрыятычнай традыцыі Францыска Скарыны. 18. «Не раве, не стогне … шырокі,\\ Зоркі ў Кіеў па рацэ плывуць». З верша «Успамін» Пімена Панчанкі, 100-годдзе з дня нараджэння якога мы адзначалі 23 жніўня. 20. «… Еўфрасінні Полацкай». Помнік усходнеславянскай літаратуры XII стагоддзя. 22. Верхняя частка, якая служыць пакрыццём якой-небудзь пасудзіны, скрынкі. 24. Тактычныя заняткі вялікай колькасці войскаў або флоту. 26. Імя полацкага князя, сына Рагнеды, які за любоў да чытання ахарактарызаваны ў летапісе як князь-кніжнік. 27. Усходы, пасевы азімых культур. 28. … Полацкі. Беларускі і рускі пісьменнік, філосаф, асветнік XVII стагоддзя, з драматургіі якога пачынаўся ў Расіі прафесійны тэатр, і які вучыў грамаце дзяцей расійскага цара.

**Па вертыкалі:** 1. Частка твора, выдадзеная асобна. 2. Самая святая … — хлеб, самае святое імя — чалавек (казахская прыказка). 3. Лоб (высокае). 4. Асобны чалавек, індывідуум. 6. … хлеба не просіць, а хлеб дае (прыказка). 9. Старадрукаваныя кнігі. 11. Тураўскае … — адзін з найстарэйшых помнікаў славянскай пісьменнасці, напісаны кірыліцай, захоўваецца ў Літве. 13. Невялікі літаратурны твор. 14. Аднадумнасць. 17. Кніжка для першапачатковага навучання грамаце; тэрмін, які ўпершыню ўжыў беларускі друкар і асветнік, ураджэнец Магілёва, прадаўжальнік справы Францыска Скарыны Спірыдон Собаль. 19. Радок або страфа, што паўтараецца ў вершы. 21. Языком, як … хвастом (прыказка). 23. «Бойся, … шчупака !\\ Лешч, не дай зевака,\\ А то будзе гора!» З паэмы Якуба Коласа «Міхасёвы прыгоды». 25. Адміністрацыйная адзінка, правінцыя ў старажытным Егіпце.

**Склаў Лявон Целеш, г. Дзяржынск**



**Адказы на крыжаванку «Князь Астрожскі вывеў раці» (НЧ, №32 ад 1 верасня):**

**Па гарызанталі:** 1. Гетман. 4. Слава. 7. Нерв. 9. Бомы. 10. Буздыхан. 12. Акт. 13. Пласт. 14. Растоў. 16. Слесар. 17. Стрэл. 19. Рцы. 20. Ляхавічы. 23. Мова. 25. Лань. 26. Табар. 27. Вялікі.

**Па вертыкалі:** 1. Губа. 2. Тампліеры. 3. Ас. 5. Лад. 6. Вох. 8. Вітаўт. 10. Батарэя. 11. Адрасны. 12. Антрэсолі. 15. Астрал. 18. Маці. 21. Хна. 22. ВІА. 24. «мя».

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №896

Падпісана да друку 22.09.2017. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Кошт свабодны.